# Рэгіянальная газета. Rh.by

Найлепшая рэгіянальная газета года 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

11 кастрычніка 2019 года №41 (1276) 18+

# Як маладзечанкі змяняюць горад


Ясенія Мікуліч.


Алеся Каролік.


Вольга Юргевіч.


Ірына Тархан.





На фота Валянціна ТАРХАНА Арцём Ткачук-Матвяйчук на адным са святаў двара, якое ладзіла Ірына Тархан і яе аднадумцы.





## Радашкавічы страцілі цікавы будынак, але займелі шанец вярнуць замак

старонка 17

## А вы ведалі, як гэтыя 11 музыкантаў звязаныя з Маладзечнам?

старонка 8

## У Маладзечне патануў 19-гадовы хлопец

старонка 4

ISSN 1991-7155




Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/

# Магазін «Радуга» ў Маладзечне ўжо выдаў 25 набораў «Круглага выдатніка»

## Раскажыце пра выдатную акцыю дзецям і ўнукам!

**Маладзечанскі сямейны магазін «Радуга» вырашыў заахвоціць школьнікаў на выдатную вучобу. І запусціў акцыю – кожны, хто збярэ за тыдзень дзесяць выдатных адзнак, атрымае смачны набор «Круглага выдатніка».**




Вучань 4 «Б» маладзечанскай гімназіі №7 Станіслаў Хруцкі атрымаў набор «Круглы выдатнік» ад магазіна «Радуга».

25-м атрымальнікам набору стаў вучань 4 «Б» класа гімназіі №7 горада Маладзечна **Станіслаў Хруцкі**. Дзесяцігадовы хлопчык прыйшоў па набор адразу пасля школы, куды ходзіць у другую змену, вечарам у аўторак, 8 кастрычніка.

### Як зарабіў выдатны тыдзень

Стас закончыў трэці клас харашыстам. Любімыя прадметы – матэматыка і «Чалавек і свет». Цяжэй даюцца мовы, а самае складанае – дыктанты. Каб падцягнуцца, летам хлопчык шмат чытаў, пісаў дыктоўкі. Падрыхтоўка дала плён – школьнік падцягнуўся і за першую чвэрць зарабляў амаль адны дзявяткі і дзясяткі. Праўда, з дыктантамі так і засталіся складанасці.

– Пра акцыю магазіна «Радуга» ведаюць усе дзеці ў маім класе, абмяркоўваем, – расказвае Стас. – Многія стараліся зарабіць за мінулы тыдзень дзесяць выдатных адзнак. А гэта не так і проста, трэба і рыхтавацца, і каб настаўнікі выклікалі. Добра, што былі праверачныя.

Хлопчык вельмі перажываў у апошнія два дні:

– Заставаліся толькі два дні, а ў мяне не хапала чатырох адзнак. Пасля ў чацвер зарабіў тры. Пятніца была самая хвалюючая. А раптам не выклікалі б? Але атрымалася зарабіць нават не адну, а дзве адзнакі!

У магазін школьнік прыйшоў з бацькамі. На пункце ахвовы работнік магазіна праверыў дзённік, запісаў дадзеныя ў спецыяльны спіс. Стас упершыню ў жыцці ставіў свой подпіс – пацвярджаў, што атрымаў падарунак. Ад «Радугі» школьнік атрымаў вялікі пачак чыпсаў «Lays», шакаладны батончык і паўлітровую бутэльку «Pepsi».

Стас падзяліўся, што класны кіраўнік **Аляксандра Іванаўна Ліпская** – моцны настаўнік. Дастаткова строгая, каб дзеці стараліся добра вучыцца, але, галоўнае, умее расказаць пра новыя веды цікава.

– Мы жывём далёка ад крамы «Радуга», – дзеліцца Станіслаў. – Але цяпер хочацца часцей прыязджаць сюды! Спадзяюся, акцыю для выдатнікаў працягнуць, яна ж такая карысная.

**Магазін «Радуга» ў Маладзечне**
размешчаны па адрасе:
**Вялікі Гасцінец, 144**
Час працы:
**08:00-23:00**



### Наборы атрымалі 25 чалавек

Першыя дзённікі для акцыі прынеслі 7 кастрычніка. Прыйшоў 21 чалавек з выдатнымі адзнакамі. На наступны дзень прыйшлі яшчэ чацвёра. Больш за ўсё ўдзельнікаў акцыі з СШ №14, гімназіі №10. Два ўдзельнікі прыехалі з Вывераў.

І хлопчыкаў, і дзяўчынак сярод удзельнікаў прыкладна пароўну. Больш дзённікаў прынеслі вучні 4, 5, 6, 7 класаў, былі і адзінаццацікласнікі. Усе дзякуюць за такую карысную акцыю і радуюцца смачным узнагародам.

### Як далучыцца да акцыі

Удзельнічаць у акцыі могуць вучні любых школ краіны ад трэцяга да 11-га класа. Забраць падарунак у маладзечанскім магазіне могуць вучні з любога населенага пункта – Вілейкі, Смаргоні і іншых.

Акцыя «Круглы выдатнік» дзейнічае ад 30 верасня. Каб паўдзельнічаць, трэба да 25 кастрычніка сабраць дзесяць выдатных адзнак – дзявяткі ці дзясяткі – за адзін тыдзень. Прыносьце дзённікі або раздрукоўкі з электроннага дзённіка ў магазін «Радуга». За адзін тыдзень з выдатнымі адзнакамі выдаюць адзін набор прысмакаў. Наборы выдаюць ад 7 да 31 кастрычніка, час працы выдачы ад 10 да 20 гадзін. Набор выдаюць толькі за папярэдні тыдзень.

У падлік не ўдзельнічаюць адзнакі за музыку або спевы, рытміку, працу, выяўленчае мастацтва, фізкультуру. Адзнакі праз дробы залічваюцца за адну. Не прымаюць адзнакі без подпісу настаўніка, выпраўленыя і падкараэктаваныя.

Падрабязнасці можна даведацца па тэлефоне **(8-029) 134-71-74.**

### Што можна атрымаць

У маладзечанскім магазіне «Радуга» можна атрымаць на выбар адзін з двух набораў выдатніка.

- Шакаладны батончык + «Pepsi» 0,5 літра + чыпсы «Lays» 150 грамаў.
- Піца «Маргарыта» 400 грамаў + «Pepsi» 0,5 літра.

Атрымлівайце заслужаную ўзнагароду за выдатныя адзнакі! Добры магазін «Радуга» падтрымлівае сямейныя каштоўнасці і заўсёды рады прапанаваць для дарагіх пакупнікоў цікавыя акцыі!

ААТ «Гандлёвы дом «Радуга-свет»
УНП 690250459

# Ільянскія вучні падарылі настаўнікам дрэвы замест кветак

ВІЛЕЙКА

**Замест букетаў да Дня настаўніка вучні ўжо другі год дораць нам дрэвы, якія садзяць у школьным двары. Ад 1 да 5 кастрычніка ў Ільянскай сярэдняй школе імя Грымаця зладзілі экалагічную акцыю «Дрэва замест букета».**

У акцыі паўдзельнічалі вучні 1-11 класаў. Цяпер каля школы – больш за сто мясцовых відаў дрэў і кустоў. Гэта бяроза, ліпа, дуб, каліна, рабіна, чырвоны і белы дзёран, дуброўка (лапчатка), кізільнік. Саджанцы дрэў і кустоў прынеслі бацькі, а таксама прадставіла шэфская арганізацыя «Вілейскі доследны лясгас».

**Не садзілі расліны інвазіўных відаў, распаўсюджванне якіх нясе небяспеку для прыроды Беларусі.**



Вучні Ільянскай сярэдняй школы падчас экалагічнай акцыі.

### Такі небяспечны Дзень настаўніка

Штогод у краіне да Дня настаўніка прадаюцца сотні тысяч букетаў кветак. Яны праз некалькі дзён пасля свята адпраўляюцца ў смецце і папаўняюць звалкі, якія растуць з кожным днём.

Прычым значную частку кветак, якія прадаюцца ў нас, дастаўляюць у Беларусь з Галандыі самалётам. А значыць іх шлях суправаджаўся выкідам вуглякіслага газу.

### Ільянскія вучні і экалогія

Сёння праблемы экалогіі, эканомікі і забеспячэння паліўна-энергетычнымі рэсурсамі ва ўсім свеце прымусілі чалавецтва перагледзець сваё спажывецкае і марнатраўнае стаўленне да прыроды, задумацца пра энергазберажэнне.

У нашай школе навучэнцы, іх бацькі і настаўнікі ад 2012 года ўдзельнічаюць у праекце «Сістэма экалагічнага менеджменту».

А сёлета ад 1 верасня школа рэалізуе педагагічны праект «Развіццё экалагічнай кампетэнтнасці вучняў на аснове стратэгіі ўстойлівага развіцця».

Нашы вучні ўмеюць практычна прымяняць экалагічныя веды, вырашаць і папярэджваць праблему, паляпшаць стан навакольнага асяроддзя.

Падарыўшы дрэва настаўнікам на свята, вучні падарылі нашаму аграгарадку глыток свежага паветра і ўпэўненасць у захаванні разнастайнасці беларускай прыроды.

**Алена МІХАЛЁНАК,**
**намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце Ільянскай сярэдняй школы імя Грымаця.**
**Фота аўтара.**

## Паабяцалі адрамантаваць дарогі

**– Самая вялікая праблема для нашага горада – стан дарог і двароў, – адзначыў на сустрэчы з насельніцтвам Зенітаўскага мікраараёна ў Вілейцы старшыня выканкама Алег Бегунец.**

ВІЛЕЙКА

Па словах старшыні, акрамя планавага фінансавання ў выканкаме шукаюць дадатковыя грошы, якія накіроўваюць на дарогі, паведамляюць у Вілейскім райвыканкаме.

Зрабілі праблемную вуліцу Волкава з уладкаваннем пешаходнай дарожкі. Дадаткова ўладкавалі некаторыя двары, у тым ліку па вуліцы Талстога.

Заасфальтавалі вуліцу Чкалава. У бліжэйшы час зробяць адну з вуліц у Ільі.

Больш за ўсё наракання выказваецца па вуліцы Чапаева ў горадзе.

– І гэта пытанне будзем вырашаць абавязкова, – адзначыў старшыня, неабходныя вялікія грошы, бо плануем не толькі рамонт дарожнага пакрыцця, але і ўладкаванне тратуараў і ліўнёўкі.

Пасля жыхары задавалі пытанні. Віляйчанка, якая займаецца фларыстыкай, пыталася, дзе можна адкрыць свой павільён.

Жыхарку з вуліцы Гагарына хвалявала тое, што сушылка для рукі ў ваннай працуе не заўсёды.

Да канца кастрычніка паабяцалі скончыць рамонт у фае паліклінікі. Таксама ў паліклініцы заменяць ліфты.

**Аддзел інфармацыі.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 3.10 | 10.10 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.0906 | **2.0708** |
| Еўра | 2.2819 | **2.2737** |
| Злоты, 10 | 5.2194 | **5.2538** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.1943 | **3.1842** |
| Грыўня, 100 | 8.3994 | **8.3886** |
| **Курсы ў «Банку БелВЭБ»** | **2.10** | **9.10** |
| Еўра | 2.2500/2.2850 | **2.2500/2.2820** |
| Долар ЗША | 2.0730/2.0930 | **2.0600/2.0800** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 2.10 | 9.10 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,73 | **18,73** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,57 | **7,57** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,95 | **4,95** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,80 | **5,80** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 15,60 | **15,60** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,40 | **1,40** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,60 | **1,60** |
| Агуркі, 1 кг | 2,50 | **1,95** |
| Баклажаны, 1 кг | 2,95 | **3,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 0,60 | **0,70** |
| Кабачок, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Морква, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Памідоры, 1 кг | 1,50 | **1,50** |
| Перац, 1 кг | 1,30 | **1,20** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Часнок, 1 кг | 5,70 | **5,70** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 4,30 | **4,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,60 | **2,50** |
| Вінаград, 1 кг | 2,50 | **2,90** |
| Гранат, 1 кг | – | **4,80** |
| Грушы, 1 кг | 2,80 | **2,80** |
| Дыня, 1 кг | 1,80 | **1,80** |
| Журавіны, 1 л | – | **4,00** |
| Кавун, 1 кг | 0,95 | **0,95** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,70 | **4,95** |
| Хурма, 1 кг | 3,30 | **2,80** |
| Чарнасліў, 1 кг | 2,30 | **2,00** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,70 | **1,70** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Затрымалі браканьераў з уловам, большым за 170 кілаграмаў

**ВІЛЕЙКА**

176 кілаграмаў рыбы вылавілі сеткамі браканьеры на Вілейскім вадасховішчы.

2 кастрычніка іх затрымалі супрацоўнікі Мядзельскай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету. Падчас затрымання двое здабытчыкаў знаходзіліся з лодкай на беразе.

Улоў паспелі загрузіць у машыну свайго таварыша, які павінны быў даставіць рыбу ў Вілейку, аднак і яго спынілі ў дарозе.

Кіроўца, у багажніку якога інспектары знайшлі дзевяць мяхоў з сеткамі і рыбай, адмаўляцца не стаў і распавёў, хто перадаў яму незаконны набытак. Усіх траіх узялі пад варту, а аўто арыштавалі. Узбуджаная крымінальная справа.

Ва ўлове аказаліся дзясяткі асобін адборнага судака (64 штукі) і ляшча (61 штука), а таксама 12 больш дробных рыбін.

Прычыненую прыродзе шкоду ацанілі амаль у 15 тысяч рублёў, гэту суму затрыманыя абяцалі аплаціць у бліжэйшыя дні. Тым не менш, браканьерства ў такіх маштабах можа абярнуцца для іх яшчэ і буйным штрафам ці пазбаўленнем волі.

**Паводле gosinspekciya.gov.by**

## Пасля смерці мужа жонка знайшла патроны ў яго сейфе

**МАЛАДЗЕЧНА**

У аператыўна-дзяжурную службу РАУС звярнулася 71-гадовая гараджанка. Жанчына расказала, што, калі разбірала рэчы памерлага мужа, знайшла боепрыпасы. Па названым адрасе прыбылі супрацоўнікі міліцыі.

У дамашнім сейфе ляжалі 57 патронаў 12-га калібру розных марак. Па словах жанчыны, муж быў паляўнічым, але дзевяць гадоў таму гладкаствольную зброю здаў на ўтылізацыю. Аб захоўванні боепрыпасаў ёй вядома не было.

Што рабіць з небяспечнымі знаходкамі яна не ведала. Адзінае правільнае рашэнне – патэлефанаваць на нумар 102 – падказала сястра, якая ў раёнцы чытала пра прафілактычную акцыю «Бывай, зброя». Патроны міліцыянеры канфіскавалі для правядзення балістычнай экспертызы і наступнай утылізацыі.

Паколькі жанчына сама здала арсенал няўлічаных патронаў, то баяцца адказнасці не варта. А вось яе мужу мог бы пагражаць штраф да 10 базавых за парушэнне правілаў абыходжання з агнястрэльнай зброяй, выбухованебяспечнымі, лёгкаўзгаральнымі, з'едлівымі рэчывамі або піратэхнічнымі вырабамі.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

● УВАГА, ВЫШУК!

## Пайшоў на працу і знік

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Супрацоўнікі крымінальнага вышуку Маладзечанскага РАУС шукаюць 44-гадовага Мечыслава Генрыкавіча Сургіневіча.**



Мужчына жыве па адрасе: **Маладзечна, вуліца Ільянская, 5.**

Аб знікненні ў міліцыю паведаміла сваячка, жыхарка Ліды. Жанчына распавяла, што 25 верасня брат пайшоў на працу, пасля чаго перастаў выходзіць на сувязь. Месцазнаходжанне мужчыны невядома ўжо амаль два тыдні, паведамляе прэс-служба Маладзечанскага РАУС.

**Прыкметы:** на выгляд 44-45 гадоў, рост каля 160-162 см, сярэдняга целаскладу; светла-русыя прамыя валасы. Памер абутку 42-43. Асаблівых прыкмет няма.

**Быў апрануты** ў чорныя штаны, белыя красоўкі. Пры сабе меў кнопкавы тэлефон, які цяпер недаступны.

Па наяўнай інфармацыі, раней мужчына неаднаразова сыходзіў з дому на доўгі час.

Маладзечанскі РАУС перакананўча просіць грамадзян, якія ведаюць што-небудзь пра месцазнаходжанне зніклага, паведаміць у міліцыю па тэлефонах: **102, (8-0176)74-96-83, (8-0176)77-16-56, 8(033)381-52-90** альбо на адрас: **Маладзечна, вуліца Галіцкага, 23.**

**Аддзел інфармацыі.**



Следчыя працуюць на месцы здарэння.

Фота забяспечана Тацянай БЕЛАНОГ.

# Папярэдняя прычына – тапленне

## У Маладзечне загінуў 19-гадовы хлопец

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Пра тое, што следчыя працавалі ў парку, дзе днямі загінуў 19-гадовы хлопец, расказала афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці Тацццяна Беланог.**

7 кастрычніка ў вадаёме, што ў парку, знайшлі цела маладога чалавека без прыкмет жыцця. Гэта быў хлопец, пра знікненне якога дзень таму ў міліцыю паведаміў яго бацька.

Было вядома, што ноччу 6 кастрычніка хлопец выйшаў з аднаго з маладзечанскіх бараў і збіраўся дамоў у вёску Вытрапаўшчына. Але дамоў ён не прыйшоў.

– Следчыя агледзелі месца здарэння. Знайшлі дакументы, грошы, асабістыя рэчы загінулага. Пры аглядзе цела бачных цялесных пашкоджанняў не знайшлі. Згодна з папярэднім заключэннем эксперта, прычынай смерці з'яўляецца ўтапленне, – расказала Тацццяна Беланог.

Канчатковыя вынікі будуць вядомыя пасля правядзення судова-медыцынскай экспертызы.

Следчыя працуюць са сваякамі, знаёмымі загінулага. Для вывучэння запатрабаваныя запісы камер відэаназірання, усталёўваюцца магчымыя відавочцы здарэння.

Праверка па гэтым факце працягваецца. Паводле яе вынікаў прымуць працэсуальнае рашэнне.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У «Аднакласніках» махляры прапаноўвалі сто рублёў ад Беларусбанка

**МАЛАДЗЕЧНА**

«Беларусбанк у гонар свайго дня нараджэння дорыць кліентам грошы ў суме 100 рублёў». Такую інфармацыю паведамляюць маладзечанцам у «Аднакласніках».

У групавых чатах карыстальнікам нібыта іх агульныя знаёмыя распавядаюць пра тое, што паўдзельнічалі ў акцыі і сталі ўладальнікамі нечаканых дывідэндаў.

Для гэтага неабходна паведаміць толькі рэквізіты банкаўскай карткі.

Многія ідуць па інструкцыі і тут жа рэкламуюць акцыю сваякам. Так пра падарунак ад банка даведалася 61-гадовая жыхарка Маладзечна.

У перапісцы са сваячкай жанчына напісала 16-значны нумар і тэрмін дзеяння двух плацежных карт, а таксама коды, якія прыходзяць на мабільны тэлефон.

Аднак западозрыўшы падман, яна паспрабавала звязацца са сваячкай па тэлефоне. Трубку ніхто не падняў, а ў адказ прыйшло паведамленне, што абанент перателефануе.

У банку жанчыну апавясцілі аб тым, што адна з карт была заблакаваная з-за падазроных аперацый, з другой спісана 57 рублёў.

Маладзечанка звярнулася ў міліцыю.

Аператыўнікі групы па раскрыцці злачынстваў у сферы высокіх тэхналогій высветлілі, што старонку сваячкі ў «Аднакласніках» узламалі.

У ходзе аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў устанавілі, што IP-адрас, з якога вялася перапіска з заяўніцай, знаходзіцца на тэрыторыі Азербайджана.

Верагодна, ашуканцы выкарысталі VPN або ланцужок VPN-сэрвісаў, якія дазваляюць змяняць IP для ананімнага сёрфінгу ў інтэрнэце.

Самой сваячкі пашанцавала больш – зламыснікам з чата яна таксама паведаміла рэквізіты банкаўскай карты, праўда, пустой.

Штодня ў Маладзечанскі РАУС і іншыя рэгіёны Мінскай вобласці сталі звяртацца жыхары рэгіёна, кажа афіцыйны прадстаўнік Маладзечанскага РАУС **Юлія Крук**.

Усе яны пацярпелі ад ашуканскіх дзеянняў у сацыяльнай сетцы «Аднакласнікі». У групавых чатах пад выглядам знаёмых ім прапаноўвалі атрымаць сторублёвы падарунак ад Беларусбанка, калі яны дадуць рэквізіты карты.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Жыхарка Чысці дзевяць дзён блукала ў лесе

**МАЛАДЗЕЧНА**

2 кастрычніка спынілі вышук 28-гадовай жыхаркі Чысці **Анастасіі Г.**, якая сышла з дома раніцай 23 верасня.

Падчас пошуку супрацоўнікі крымінальнага вышуку Маладзечанскага РАУС знайшлі яе ў лесапаласе недалёка ад вёскі Качына Мінскага раёна, у трохстах метрах ад аўтадарогі Р-28 Мінск-Маладзечна-Нарач.

У знясіленым стане дзяўчына ляжала на зямлі. Яе асабістыя рэчы былі раскіданыя ў радыусе дзесяці метраў. Аператыўнікі перадалі дзяўчыну медыкам.

Яна распавяла, што ўсе дзевяць дзён блукала ў лесе.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**






# Аквадыў – багацце роднай зямлі ў кожнай кроплі

**Захаваць лепшыя традыцыі і выпускаць разнастайныя сучасныя прадукты высокай якасці – менавіта такім падыходам «Аквадыў» заваёўвае прыхільнасць пакупнікоў. Пра тое, чым адметныя напоі Маліноўшчынскага спіртагарэлачнага завода, нам распавялі на самім прадпрыемстве.**

Каб быць упэўненымі ў якасці кожнага прадукта, які выпускае «Аквадыў», кампанія працуе з поўным цыклам вытворчасці. Гэта значыць, што менавіта высокакваліфікаваныя работнікі «Аквадыва» цалкам сочаць за ўсім працэсам ад самага пачатку вырабу і да транспарціроўкі прадукта на паліцы магазінаў.

Сыравіну кантралююць ад свідравіны, на лініі разліву вядуць улік і кантроль на адпаведнасць па сістэме менеджменту бяспекі харчовай прадукцыі. Гэты сертыфікат адпаведнасці «Аквадыў» атрымаў першым у краіне.

Да Еўрапейскіх гульняў, калі ішла гаворка, хто будзе спонсарам вады, «Аквадыў» аказаўся адзінай кампаніяй у Беларусі, хто меў гэту сістэму. Іншым вытворцам давялося бегчы за «Аквадывам».

**Прадукцыя завода «Аквадыў» атрымала сёлета чарговы залаты медаль на міжнароднай выставе «Продэкспа-2019» у Маскве.**

### Аптымальная мінеральная вада

Мінеральную ваду «Аквадыў» наўмысна выпускае ў шкляных бутэльках. Гэта забяспечвае стабільныя арганалептычныя якасці – тыя, што ўспрымаюць органы пачуццяў. Пах, колер, смак вады ў працэсе захоўвання не зменіцца. Шкляная бутэлька таксама захоўвае нязменныя фізіка-хімічныя і мікрабіялагічныя паказчыкі. Бутэлькі выкарыстоўваюць адзін раз.

Прадпрыемства мае кантрольныя пункты адбору вады, кантрольныя пункты на лініі разліву і гатовай прадукцыі. Гэта дазваляе гарантаваць якасць з поўнай упэўненасцю.

Умовы ўтрымання вады на складзе, перавозка транспартам такія, каб захоўваць ваду найлепшым чынам. «Аквадыў» падтрымлівае аптымальны рэжым захоўвання па вільготнасці і тэмпературы, каб да кліента дайшла вада, захаваўшы ўсе ўласцівасці.

Мінеральная вада «Аквадыва» без староннняга смаку і паху. Яна маламінералізаваная, гарманічная і мае збалансаваны склад, а таксама характэрны смак і пах для комплексу раствораных у вадзе рэчываў па паказчыках стандарту.

Забор мінеральнай вады ідзе з артэзіянскай свідравіны, размешчанай у Маліноўшчыне, ад узроўню не ніжэй за 350 метраў. Дасведчаныя і кваліфікаваныя спецыялісты кантралююць мікрабіялагічныя, фізіка-хімічныя і арганалептычныя паказчыкі вады на адпаведнасць патрабаванням Дзяржаўных стандартаў Беларусі. Усе санітарныя і гігіенічныя нормы і правілы цалкам вытрымліваюцца.

**Вада, якую здабываюць у Маліноўшчыне, – сапраўднае прыроднае багацце. Яна настолькі чыстая і аптымальная па стабільным мінеральным складзе, што разліваюць яе практычна ў прыродным стане.**



Капліца на тэрыторыі завода «Аквадыў».

### Больш за 150 гадоў спадчыны

Завод «Аквадыў» стаў спадчыннікам вінакурні, якую заснавалі прадстаўнікі роду Свентажэцкіх у 1871 годзе. Іх унёсак у развіццё і справы, і мястэчка ўвогуле ўшаноўваюць і сёння. На тэрыторыі завода захавалася галоўная славутасць гэтых месцаў – сямейная капліца незвычайнай формы. У ёй былі пахаваныя тры гаспадары вінакурні, а камяні ў іх гонар умураваныя ў сцены.

Напоі з Маліноўшчыны славіліся ў 19 стагоддзі па ўсёй Расійскай імперыі, іх цанілі ў Італіі, Аўстрыі, Польшчы. На Санкт-Пецярбургскай выставе 1889 года маліноўшчынскія напоі атрымалі срэбраны медаль, на Маскоўскай выставе 1892 года – спецыяльны прыз.

Сёння работнікі завода «Аквадыў» працягваюць найлепшыя традыцыі Маліноўшчынскай вінакурні і дорацць багацце роднай зямлі ў кожнай кроплі.

# ПРЫВАТНЫЯ АБ’ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

Рэгіянальная газета.

* Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб’яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Аўдзі-100, 1983 г.в., 1,8 бензін, чырвоны, 1100 рублёў. Т. МТС (8-029) 2582108.

• ЗАЗ-Таўрыя, 2006 г.в., выдатны стан, 1900 рублёў. Т. (8-029) 6653394.*

• Мерсэдэс МБ 100 па запчастках. Т. (8-033) 3494378.*

• Пежо 306, універсал, 1997 г.в., 1,8 куб. см, 3500 рублёў. Т. (8-029) 1945715.

• Рэно-Лагуна, 2010 г.в., х/б, CDI, 1,5, белае, з Францыі,13500 . Т. (8-029) 6870898.*

• Фольксваген-Гольф 3, 1,4 мона, 5-дзверны, па запчастках. Т. (8-033) 3494378.*

• Форд КА, 1999 г.в., па запчастках. Т. (8-033) 3494378.*

• Шаўрале-Матыз у выдатным стане. Т. (8-029) 9139773.

• Гума зімовая Amtel 155/70 R13, трохі б/у, нядорага. Т. (8-044) 4613770.

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 1477209.***

• Аўто! Іншамарку! У любым стане. Т. (8-029) і (8-044) 7769900.*

• Аўто, можна аварыйны. Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду для сябе. Грошы адразу. Т. (8-029) 7555455, (8-029) 1563334.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• **3-ПАКАЁВАЯ КВАТЭРА Ў МЯДЗЕЛЕ, ВУЛ. ЮБІЛЕЙНАЯ, 21. Т. (8-029) 3926213.***

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне або абмен на кватэру ў Валожыне ці Маладзечне. Т. (8-0176) 533659, (8-025) 9115360, (8-033) 6384534.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029)9485029.

• 2-пакаёвая кватэра ў цэнтры Валожына. Агульная плошча 51 кв. м, кухня – 7,3 кв. м, с/в раздзельны. Тэрмінова. 46 000 руб. Торг на месцы. Т. (8-029) 8716493 Алена.

• Гараж у ГБК-2, Вілейка, нядорага. Т. МТС (8-033) 6611354.*

• Дом у вёсцы Самалі. Т. (8-033) 3958668.*

### ЗДАМ

• Гараж у Маладзечне па вул. Міру, 6х9. Т. (8-029) 5753932.*

## ПАСЛУГІ

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАР**. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты, гідрабур пад фундамент на палях (свайные фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044)5522028.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважын) дыяметрам 32 мм, 63 мм, 90 мм і 125 мм. Работы выконваем магутнай малагабарытнай устаноўкай. Спецыялісты атэставаныя на тэрыторыі РБ. Магчымы выезд для кансультацыі. Кошт работы ад 40 рублёў м/п. ІП Субат П.І. УНП 692010733. Т. (8-029) 8331245, (8-044) 5486213.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• **МАНТАЖ-ДЭМАНТАЖ** дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт камп’ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт камп’ютараў, ноўтбукаў, манітораў, планшэтаў. ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• **СПІЛОЎВАННЕ і АБРЭЗКА** дрэў. Магчымы вываз, выкарчоўванне пнёў. Скідкі. ІП Мамай Ю.А. УНП 691895935. Т. Вэлком (8-029) 3301964, МТС (8-029) 8177983.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*

• Цэгла віцебская, вогнетрывалая, пячное ліццё, кладачныя сумесі. Т. (8-029) 8351640, (8-044) 7557072.*

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**



**Музінструмент**

• Гармонікі вытворчасці Маладзечна. Адзін для дарослых і адзін для дзяцей. Т. (8-029) 6348540.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Авечкі і козлікі, Валожынскі раён. Т. (8-029) 6433476.*

• Козачкі 7 месяцаў. Нядорага. Т. (8-033)6684495.*

• Марскія свінкі, дзве дзяўчынкі, нядорага. Т. (8-033)3668181.*

• Парасяты кармалаў, бульба. Т. (8-044) 5321975, (8-029) 7621019.*

• Пеўні маладыя па 7 рублёў. Т. (8-029) 2698633.*

**Іншае**

• Бульба буйная да 2 тон. Цана дагаворная. Т. (8-029) 9275066.

• Гандлёвы павільён (харчовы) на рынку ў Вілейцы. Т. (8-029) 7016721.*

• Сена. Т. (8-029) 6870898.*

• Электраводанагравальнік. Т. (8-029) 9139773.

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Антыкварыят**

• Манету царскую. Т. Вэлком (8-029) 6488117.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Кафлю пячную польскую старую. Т. (8-033) 3613388.

### АДДАМ

• Шчанят (помесь) у клапатлівыя рукі. Т. (8-044) 7438947.*

### ІНШАЕ

• Ёсць прапіска. Т. МТС (8-029) 5787964.

**ПАДАЧА АБ’ЯЎ І РЭКЛАМЫ Ў БЛІЖЭЙШЫ НУМАР** «РЭГІЯНАЛЬНАЙ ГАЗЕТЫ» – **да 16:00 серады**

Аддзел рэкламы: (8-0176) **53-78-04** (тэл./факс), (8-029) **676-84-20, 573-28-47**
E-mail: **reklama@rh.by**

# А вы ведалі, як гэтыя 11 музыкантаў звязаныя з Маладзечнам?

МАЛАДЗЕЧНА

**Што мы ведаем пра Маладзечна музычнае? Згадваем свята беларускай песні і паэзіі, што ладзяць у горадзе ад 1993 года дзякуючы палітыку і навукоўцу Генадзю Карпенку.**

Успамінаем пра музкаледж і колішнюю фабрыку музычных інструментаў. Прыгадваем вядомых музыкантаў, якія ў розныя часы былі звязаныя з нашым краем.

### Міхал Клеафас Агінскі (1765-1833)

Князь, кампазітар, дыпламат, палітычны дзеяч. Аўтар паланэза «Развітанне з радзімай». Ад 1814 года стаў гаспадаром Маладзечанскага маёнтка пасля смерці свайго дзядзькі. Значную частку пакояў замка аддаў маладзечанскаму павятовому вучылішчу. Падарыў яму частку сваёй бібліятэкі і музычныя інструменты. Пакінуў маладзечанскія уладанні ў 1822 годзе.

Маладзечанскі сімфанічны аркестр пад кіраўніцтвам **Рыгора Сарокі** паставіў оперу «Агінскі. Невядомы партрэт». Краязнаўца і пісьменнік **Уладзімір Садоўскі** прысвяціў асобе твор «1813». На будынку маладзечанскага музкаледжа ёсць мемарыяльная дошка ў гонар кампазітара, а побач з будынкам – помнік.

### Міхась Забэйда-Суміцкі (1900-1981)

Беларускі спявак, тэнар. У 1914 годзе паступае ў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Праз год, калі набліжаўся фронт Першай сусветнай вайны, семінарыя эвакуіравалася ў Смаленск, куды паехаў і ён таксама. Скончыў семінарыю ў 1918 годзе і паехаў працаваць у Сібір, куды эвакуіравалі маці. Большую частку жыцця пражыў за межамі Беларусі. Пахаваны ў Празе. Акрамя класічнага рэпертуару Забэйда-Суміцкі абавязкова ўключаў у кожнае сваё выступленне народныя песні і вакальныя творы беларускіх кампазітараў. Папулярызаваў беларускую народную песню ў свеце.

### Мікалай Суднік (1901 – 1974)

Гарманіст, майстар гармонікаў. Родам з Вілейшчыны. Любоў да музыкі прышчапіў дзядуля. Самастойна навучыўся іграць на гармоніку і баяне.

Пасля Другой сусветнай працаваў у маладзечанскай музычнай арцелі. На адным з рэспубліканскіх конкурсаў гармонік арцелі заняў першае месца. Інструмент назвалі «Беларусь». Калі ў 1947 годзе ў Маладзечне адкрылі фабрыку музычных інструментаў, разам з братам **Іванам** пачаў працаваць там. Слава пра маладзечанскія гармонікі пайшла па ўсім былым СССР.

Памёр майстар у Маладзечне. Тут і пахаваны. Інструменты Мікалая Судніка захоўваюцца ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі ў Маладзечне.

### Іосіф Сушко (1928-2016)

Беларускі самадзейны кампазітар. Заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь, мастацкі кіраўнік ансамбля песні і танца «Спадчына», лаўрэат прэміі «За духоўнае адраджэнне». Ганаровы грамадзянін Маладзечна.

Нарадзіўся на Віцебшчыне. З Маладзечнам звязаны ад 1959 года, калі паступіў на другі курс мясцовага музвучылішча (цяпер каледж) па класе харавога дырыжыравання.

Вядомы як кіраўнік народнага ансамбля песні і танца «Спадчына». У 1963-1977 гадах выкладаў харавыя дысцыпліны ў музвучылішчы.




Помнік Агінскаму аўтарства Валяр'яна Янушкевіча ля музкаледжа ў Маладзечне.

### Рыгор Сарока

Музыкант, дырыжор, педагог. Заслужаны работнік культуры Беларусі, дырэктар музычнага каледжа імя Агінскага ад 1980 года. Нарадзіўся ў 1944 годзе на Маладзечаншчыне. Скончыў Маладзечанскае музвучылішча і кансерваторыю.

У 1976 годзе стварыў камерны аркестр народных інструментаў. У 1981 годзе калектыву прысвоілі званне «народны». Ад 1979 года – дырыжор сімфанічнага аркестра вучылішча. Ад 1989 года калектыў таксама носіць званне народнага.

Вясной 1996 года па ініцыятыве Рыгора Сарокі ў Маладзечне пачала дзейнічаць канцэртная пляцоўка – музычны падворак «Новыя Агінты».

### Юры Антонаў

Кампазітар, эстрадны спявак, музыкант. Нарадзіўся ў Ташкенце ў 1945 годзе. У Маладзечне прайшло дзяцінства і юнацтва будучага спевака, куды сям'я прыехала з бацькам-вайскоўцам.

**Спачатку маці прыняла сына ў мясцовую музычную школу. Потым хлопец паступіў у Маладзечанскае музвучылішча ў клас да педагога Карла Пагоцкага. Аднагрупнікі прыгадваюць, што Юры Антонаў не быў старанным вучнем.**

### Алег Елісеенкаў

Кампазітар, выканаўца, дацэнт кафедры мастацтва эстрады Беларускага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. Нарадзіўся ў Расіі ў 1958 годзе. Пасля сям'я пераехала ў Маладзечна. Бацька будучага кампазітара, **Мікалай**, быў адным з першых выкладчыкаў Маладзечанскага музвучылішча. Сам Алег Елісеенкаў жыў у Маладзечне да 19 год. У 1973 годзе скончыў тут жа музвучылішча па спецыяльнасці «тэорыя музыкі».

### Алена Атрашкевіч

Кампазітар, педагог, старшыня Саюза кампазітараў Беларусі. Нарадзілася ў 1966 годзе ў Барысаве. Скончыла Ленінградскую кансерваторыю. Ад 1989 года выкладала ў Маладзечанскім музкаледжы. У Маладзечне стварыла дзіцячую вакальную студыю «Спяваем разам». Аўтар шматлікіх дзіцячых песень. Журы вакальных конкурсаў рознага ўзроўню.

### Уладзіслаў Сулімскі

Оперны спявак, саліст Марыінскага тэатра. Нарадзіўся ў Маладзечне ў 1976 годзе. Вучыўся ў Маладзечанскім музвучылішчы па класе скрыпкі, але быў адлічаны за непаспяховасць. Пасля вучыўся ў кансерваторыі ў Санкт-Пецярбургу. У 2000-2004 гадах быў салістам Акадэміі маладых спевакоў Марыінскага тэатра. Ад 2004 – саліст гэтага тэатра. Вучыўся ў Мілане ў прафесара Метрэ.

### Уладзімір Александровіч

Оперны спявак. Нарадзіўся ў Маладзечне ў 1977 годзе. Да 19 год займаўся кікбоксінгам, атрымаў тэхнічную адукацыю. У 20 год паступіў у Маладзечанскае музвучылішча. Таленавітага маладзечанца заўважылі на міжнародных конкурсах.

**Сёння Александровіч – саліст опернага тэатра ў Фларэнцыі. Прыязджае ў Маладзечна. Дае сумесныя канцэрты з сімфанічным аркестрам музкаледжа. У рэпертуары – арыі, рамансы, эстрадныя песні.**

### Артур Міхайлаў

Эстрадны спявак, саліст беларускага дзяржаўнага ансамбля «Песняры». Нарадзіўся ў Маладзечне ў 1990 годзе. З дзяцінства паспяхова ўдзельнічаў у рэгіянальных і вакальных конкурсах. Скончыў інстытут сучасных ведаў імя Шырокава па спецыяльнасці «артыст эстрады, выкладчык вакалу».

**Аддзел інфармацыі.**

ЗОРКА ТЭЛЕТЫДНЯ

# Джош Рэднар



Фота cbns.com.

**Амерыканскі акцёр, рэжысёр і сцэнарыст, які атрымаў вядомасць дзякуючы ролі Тэда Мозбі ў камедыйным тэлесерыяле «Як я сустрэў вашу маму».**

Рэднар нарадзіўся ў Калумбусе, ЗША. Яго маці працуе саветнікам па кіраванні сярэдняй школай, а бацька – юрыст па службовых дзеяннях. У Рэднара ёсць дзве сястры: Меланія і Джаана. Рэднар наведваў яўрэйскую школу і быў выхаваны ў кансерватыўным іўдаізме. У 1996 годзе скончыў каледж са ступенню бакалаўра мастацтваў. Таксама ён атрымаў ступень магістра вытанчаных мастацтваў па акцёрскім майстэрстве ў нью-ёркскім універсітэце.

## Кар'ера ў тэатры, кіно і музыцы

Рэднар сыграў галоўную ролю ў серыі «Не ў цэнтры». Тым не менш, серыял выйшаў з другім акцёрам. У 2002 годзе дэбютаваў на Брадвеі ў сцэнічнай версіі «Выпускніка». У 2004 годзе зняўся ў «Парыжскім лісце» разам з будучай зоркай «Як я сустрэў вашу маму» Нілам Патрыкам Харысам. Ад 2005 да 2014 года Рэднар знімаўся ў «Як я сустрэў вашу маму». Гэта яго самая вялікая роля на сённяшні дзень. У сваёй аўтабіяграфіі Ніл Патрык Харыс сказаў, што сур'ёзнасць Рэднара як асобы зрабіла серыял «Як я сустрэў вашу маці» больш аўтарытэтным шоу.

У кастрычніку 2016 года Рэднар пацвердзіў, што знаходзіцца ў музычным калектыве «Рэднар і Лі» з аўстралійцам Бэн Лі. Іх дэбютны альбом выйшаў у 2017-м.

## Праекты, у якіх удзельнічае цяпер

Серыял **«Паляванне»** пра групу паляўнічых на нацыстаў. Падзеі адбываюцца ў 1977 годзе ў Нью-Ёрку. Паляўнічыя выявілі, што сотні высокапастаўленых нацысцкіх чыноўнікаў жывуць сярод амерыканцаў. Яны будуць шукаць нацыстаў, каб прыцягнуць іх да адказнасці. Рэднар здымаўся ў ролі Лоні Флэша. На дадзены момант гэта адзіны праект, у якім здымаецца Джош.

## Асабістае жыццё

Рэднар – прыхільнік гурта «Клаўд Культ». Ён супрацоўнічаў з гуртам, каб зрабіць фільм «Шукальнік» у 2016 годзе. Любімыя фільмы Рэднара: «Клуб Сняданак», «На світанні», «Перад заходам», «Тутсі», «Жыццё іншых» і «Шчасце». Джош Рэднар – зарэгістраваны дэмакрат. Агітаваў за Барака Абаму, які ўдзельнічаў у выбарах 2008 і 2012 гадоў. У інтэрв'ю з гэтай нагоды сказаў:

– Я пагарджаю палітыкай, але мне вельмі падабаецца Абама.

У акцёра ёсць алергія на сабак. Сустракаўся з Ліндсэй Прайс.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**





## 8 канал

ВОСЬМОЙ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 14 ОКТЯБРЯ

**7.00, 15.55, 18.05, 21.05, 0.05** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Тимон и Пумба».
**7.30, 16.00** «Юморинка».
**7.35** Х/ф **«ИСТОРИЯ ДВУХ КОШЕЧЕК».**
**9.00, 18.10** Т/с **«ЛЕГАВЫЙ».**
**10.30** «Необычайные деревни».
**10.40** Х/ф **«КРЕСТНЫЙ ОТЕЦ».**
**13.40, 19.50** Т/с **«ЭЛИТА».**
**14.30** Т/с **«НЕБЕСНЫЙ ЗАМОК».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.15** Т/с **«ЗАТЕРЯННЫЕ В КОСМОСЕ».**
**17.15** Т/с **«СЕКРЕТНЫЕ МАТЕРИАЛЫ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ПОП».**
**23.20** Т/с **«ИМПЕРИЯ».**

### ВТОРНИК, 15 ОКТЯБРЯ

**7.00, 15.55, 18.05, 21.05, 0.10** «Погода» + «Эрана».
**7.10** «Мульт-парад». «Тимон и Пумба».
**7.35, 16.00** «Юморинка».
**7.40** Х/ф **«ЗА БОРТОМ».**
**9.35, 18.10** Т/с **«ЛЕГАВЫЙ».**
**11.00** Д/ф «ДИКАЯ ПРИРОДА РОССИИ».
**11.45** Х/ф **«ПОП».**
**14.00, 19.50** Т/с **«ЭЛИТА».**
**14.50** Т/с **«АЛОЕ СЕРДЦЕ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.15** Т/с **«ЗАТЕРЯННЫЕ В КОСМОСЕ».**
**17.15, 23.00** Т/с **«ИМПЕРИЯ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«НЕБОСКРЕБ».**

### СРЕДА, 16 ОКТЯБРЯ

**7.00, 15.55, 18.10, 21.05, 23.45** «Погода» + «Эрана».
**7.10** «Мульт-парад». «Тимон и Пумба».
**7.35, 16.00** «Юморинка».
**7.40** Х/ф **«БЕЛОЕ СОЛНЦЕ ПУСТЫНИ».**
**9.10, 19.15** Т/с **«ЛЕГАВЫЙ».**
**10.40** Д/ф «ВЕЛИКАЯ ТАЙНА ВОДЫ».
**12.00** Х/ф **«НЕБОСКРЕБ».**
**13.50, 20.00** Т/с **«ЭЛИТА».**
**14.50** Т/с **«АЛОЕ СЕРДЦЕ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.20** Т/с **«ЗАТЕРЯННЫЕ В КОСМОСЕ».**
**17.20, 23.00** Т/с **«ИМПЕРИЯ».**
**18.15** «Законы привлекательности».
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«АНТИГЕРОЙ».**

### ЧЕТВЕРГ, 17 ОКТЯБРЯ

**7.00, 15.55, 18.55, 21.05, 0.30** «Погода» + «Эрана».
**7.10** «Мульт-парад». «Тимон и Пумба».
**7.35, 16.00** «Юморинка».
**7.40** Х/ф **«ЛЕДОКОЛ».**
**9.45, 19.00** Т/с **«ЛЕГАВЫЙ».**
**10.30** Д/ф «ТИТАНИК».
**12.00** Х/ф **«АНТИГЕРОЙ».**
**14.00, 19.50** Т/с **«ЭЛИТА».**
**14.50** Т/с **«АЛОЕ СЕРДЦЕ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.30** Т/с **«ЗАТЕРЯННЫЕ В КОСМОСЕ».**
**17.30, 23.45** Т/с **«ИМПЕРИЯ».**
**18.15** «Готовь как шеф».
**18.45** «Фешн is my профешн».
**20.45** «Необычные деревни».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«БУНКЕР».**

### ПЯТНИЦА, 18 ОКТЯБРЯ

**7.00, 15.55, 18.05, 21.05, 1.15** «Погода» + «Эрана».
**7.10** «Мульт-парад». «Тимон и Пумба».
**7.35, 16.00** «Юморинка».
**7.40** Х/ф **«ИЗГОЙ».**
**10.00** Т/с **«ЛЕГАВЫЙ».**
**10.45** «Готовь как шеф».
**11.10, 18.00** «Необычные деревни».
**11.15** Х/ф **«БУНКЕР».**
**13.50, 19.50** Т/с **«ЭЛИТА».**
**14.45** Т/с **«АЛОЕ СЕРДЦЕ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.15** Т/с **«ЗАТЕРЯННЫЕ В КОСМОСЕ».**
**17.10** Т/с **«ИМПЕРИЯ».**
**18.10** Т/с **«ЧЕРНАЯ КОШКА».**
**20.45** «Необычайные деревни».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** «Вечерний квартал-95».
**22.30** Х/ф **«ИНТЕРСТЕЛЛАР».**

### СУББОТА, 19 ОКТЯБРЯ

**7.00** «Погода»+ «Эрана» +.
**7.10** Мультфильмы.
**7.55** «Утрямдия».
**8.00** Т/с **«ГАРДЕМАРИНЫ, ВПЕРЕД!».**
**12.50** Х/ф **«ИНТЕРСТЕЛЛАР».**
**15.40, 19.00, 21.20, 1.35** «Погода» + «Эрана».
**15.45** Смотрим всей семьей. «Робинзон Крузо».
**17.15, 0.45** Т/с **«ИМПЕРИЯ».**
**18.00** «Законы привлекательности».
**19.05** Х/ф **«ЛИНКОЛЬН ДЛЯ АДВОКАТА».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** «Фешн is my профешн».
**21.25** «Жестокие мужские игры» Драма «Крестный отец-2».

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 20 ОКТЯБРЯ

**7.00, 13.50, 19.00, 21.05, 0.10** «Погода» + «Эрана».
**7.10** Мультфильмы.
**8.00** Х/ф **«ЛИЗЗИ МАГУАЙР».**
**9.25** «Утрямдия».
**9.30** «Готовь как шеф».
**10.00** «Законы привлекательности».
**10.50** «Вечерний квартал-95».
**12.10** Х/ф **«БРИЛЬЯНТОВАЯ РУКА».**
**13.55** «Смотрим всей семьей». «Джуманджи».
**15.55** «Необычайные деревни».
**16.00** Х/ф **«ДЕВЯТЬ ЯРДОВ».**
**17.45** Программа о моде и не только… «BELFASHION.TV».
**18.15** Т/с **«КАСЛ».**
**19.05** Х/ф **«ДЕВЯТЬ ЯРДОВ-2».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА».**

## МКТВ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 14 ОКТЯБРЯ

**6.30, 13.00, 17.10, 22.20** Мажорный лад.
**8.00** Х/ф **«ГРИНЧ».**
**9.40** Х/ф **«ВОЛК И ОВЦЫ Б-Е-Е-ЕЗУМНОЕ ПРЕВРАЩЕНИЕ».**
**11.20** Х/ф **«ИВАН ЦАРЕВИЧ И СЕРЫЙ ВОЛК».**
**14.00** Х/ф **«НОВЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ АЛАДДИНА».**
**15.45** Х/ф **«АЛЕША ПОПОВИЧ И ТУГАРИН ЗМЕЙ».**
**18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.20** удьте здоровы.
**20.20** Х/ф **«ВАССАБИ».**

### ВТОРНИК, 15 ОКТЯБРЯ

**6.30, 7.20** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 8.20, 18.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.25, 17.15, 22.20** Мажорный лад.
**12.00** Х/ф **«ИВАН ЦАРЕВИЧ И СЕРЫЙ ВОЛК».**
**14.00** Х/ф **«ОХОТНИКИ ЗА ПРИВИДЕНИЯМИ».**
**15.40** Х/ф **«УРФИН ДЖЮС И ЕГО ДЕРЕВЯННЫЕ СОЛДАТЫ».**
**19.20** удьте здоровы.
**20.20** Х/ф **«БАБУШКА ЛЕГКОГО ПОВЕДЕНИЯ».**

### СРЕДА, 16 ОКТЯБРЯ

**6.30, 7.20** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.20** Х/ф **«КРОЛИК ПИТЕР».**
**10.00** Х/ф **«ИВАН ЦАРЕВИЧ И СЕРЫЙ ВОЛК».**
**12.00, 17.50, 22.20** Мажорный лад.
**13.00** Х/ф **«ИГРУШКА».**
**14.35** Х/ф **«ВОЛК И ОВЦЫ Б-Е-Е-ЕЗУМНОЕ ПРЕВРАЩЕНИЕ».**
**16.20** Х/ф **«ВАССАБИ».**
**19.20** удьте здоровы.
**20.20** Музыкальная открытка.

### ЧЕТВЕРГ, 17 ОКТЯБРЯ

**6.40, 7.20, 8.20** Песня на завтрак.
**6.50, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.40** Смайлик.
**9.10** Х/ф **«МЕЖДУ АНГЕЛОМ И БЕСОМ».**
**11.05** Х/ф **«ШПИОН ПО СОСЕДСТВУ».**
**12.40** Х/ф **«ЗЕЛЕНЫЙ ШЕРШЕНЬ».**
**14.45** Х/ф **«БОЛЬШЕ ЧЕМ ДРУГ».**
**16.30** Мнения и факты: Государственные закупки.
**16.50, 22.20** Мажорный лад.
**19.20** удьте здоровы.
**20.20** Х/ф **«ОЧЕНЬ ОПАСНАЯ ШТУЧКА».**

### ПЯТНИЦА, 18 ОКТЯБРЯ

**6.30, 7.20** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00** Новости: время местное.
**8.20, 19.30, 22.30** Мажорный лад.
**12.00** Х/ф **«АЛЕША ПОПОВИЧ И ТУГАРИН ЗМЕЙ».**
**13.30** Х/ф **«УРФИН ДЖЮС И ЕГО ДЕРЕВЯННЫЕ СОЛДАТЫ».**
**15.35** Х/ф **«ВОЛК И ОВЦЫ Б-Е-Е-ЕЗУМНОЕ ПРЕВРАЩЕНИЕ».**
**17.25** Новости БЖД.
**19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**20.20** Х/ф **«50 ПЕРВЫХ ПОЦЕЛУЕВ».**

### СУББОТА, 19 ОКТЯБРЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 8.30, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**7.30, 15.50, 19.30, 22.30** Мажорный лад.
**8.40** Х/ф **«УРФИН ДЖЮС И ЕГО ДЕРЕВЯННЫЕ СОЛДАТЫ».**
**10.05** Х/ф **«АМЕЛИ».**
**12.10** Х/ф **«ДОМИК В СЕРДЦЕ».**
**13.45** Х/ф **«КАНИКУЛЫ МЕЧТЫ».**
**15.20, 21.10** Новости БЖД.
**16.40** Х/ф **«ВАССАБИ».**
**18.40** Мая Радзіма.
**20.30** Музыкальная открытка.

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 20 ОКТЯБРЯ

**6.30** Х/ф **«ЗДРАВСТВУЙ ПАПА, НОВЫЙ ГОД!».**
**8.00** Х/ф **«ГРИНЧ».**
**9.40** Х/ф **«ВОЛК И ОВЦЫ Б-Е-Е-ЕЗУМНОЕ ПРЕВРАЩЕНИЕ».**
**11.05** Х/ф **«ИВАН ЦАРЕВИЧ И СЕРЫЙ ВОЛК».**
**12.20** Х/ф **«УРФИН ДЖЮС И ЕГО ДЕРЕВЯННЫЕ СОЛДАТЫ».**
**13.50** Х/ф **«ОПЕРАЦИЯ «ТУШЕНКА».**
**15.30** Х/ф **«СЕМЕЙНОЕ ОГРАБЛЕНИЕ».**
**17.00** Х/ф **«АМЕЛИ».**
**19.00** Х/ф **«ВАССАБИ».**
**20.30** Х/ф **«НУ, ЗДРАВСТВУЙ, ОКСАНА СОКОЛОВА!».**
**21.00** Х/ф **«ИДЕАЛЬ».**

# нядзеля, 20 кастрычніка

## Беларусь 1

**6.25, 15.30** Х/ф **«НЕСЛАДКАЯ МЕСТЬ».**

**8.15** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.45** Истории спасения.

**10.25** «Все за стол!».

**11.15** Вокруг планеты.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Маршрут построен.

**13.15** Х/ф **«ОХОТА НА ВЕРНОГО».**

**15.15** Твой город.

**19.45** «На вылет!». Развлекательно-интеллектуальное шоу.

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.10** Х/ф **«НОВЫЙ МУЖ».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«ЧЕРЕПАШКИ-НИНДЗЯ».**

**7.25** Х/ф **«КОРОЛЬ ДРОЗДОБОРОД».**

**8.50, 19.35** Телебарометр.

**8.55** «Зов крови». Социальное реалити-шоу.

**10.10** «Селапелетела». Трэвел-шоу.

**10.45** «До свидания». Реалити-шоу.

**11.35** «Богиня шопинга. Блестящее возвращение». Фэшн-шоу.

**12.35** Х/ф **«МЮНХЕН».**

**15.15** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.45** «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу.

**20.10** «Орел и Решка. Перезагрузка». Трэвел-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** «Третий лишний». Реалити-шоу.

**22.20** Х/ф **«МНЕ БЫ В НЕБО».**

**0.10** «Когда мы дома». Скетчком.

## Беларусь 3

**7.35** «Сказка о рыбаке и рыбке». Мультфільм.

**8.05, 14.40, 20.15** Навіны культуры.

**8.25, 20.35** «Гэты дзень».

**8.30** «Першы тралейбус». Мастацкі фільм.

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Цатні.

**10.55** «Сваімі словамі». Тэлевіктарына.

**11.30** «Нацыянальны хіт-парад».

**12.25** «Вадзіцель аўтобуса». Мастацкі фільм [СТ].

**15.00** «Славянскі базар-2019». Лепшае.

**16.00** «Майстры і куміры». Народная артыстка Беларусі Наталля Руднева.

**16.55** «Мая Анфіса». Мастацкі фільм.

**18.05** «Перахоп». Мастацкі фільм [СТ].

**19.35** «Фарбы памяці. Міхаіл Савіцкі».

**20.00** «На вышыні». Піяністка Ганна Горбач.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** XIV Міжнародны фестываль Юрыя Башмета. «Візуалізацыя. Музыка і гісторыя». Міжнародны камерны аркестр «EAST-WEST CHAMBER ORCHESTRA». Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор – Расціслаў Крымер. Летыцыя Марэна (скрыпка). (Іспанія).

**22.35** «Адам. Жыццё чалавека». Дакументальны фільм да 220-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча. Фільм другі «Конрад Валенрод» [СТ].

**23.00** «Тэатр у дэталях». Спектакль Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь «Князь Ігар».

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** «Здоровье».

**8.05** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.45** Х/ф **«ТАБЛЕТКА ОТ СЛЁЗ».**

**11.35** «Видели видео?».

**14.15** «Элина Быстрицкая. Звезда эпохи».

**15.15** Премьера. Концерт Наташи Королёвой «Ягодка».

**16.20** Концерт Наташи Королёвой «Ягодка». Продолжение.

**17.10** Премьера. Гарик Мартиросян в новом музыкальном проекте «Щас спою!».

**18.25** Шоу Максима Галкина «Лучше всех!» Новый сезон.

**20.00** «Контуры».

**21.20** Премьера. Вячеслав Никонов и Дмитрий Саймс в программе «Большая игра».

**23.15** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**23.35** «Что? Где? Когда?» Осенняя серия игр.

## СТВ

**6.00** «Пища богов».

**7.35, 20.35** Документальный спецпроект.

**9.15** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.05** «Водить по-русски».

**11.35, 13.40, 16.40** Т/с **«НЕСЛУЧАЙНАЯ ВСТРЕЧА».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**22.30** «Неделя спорта».

**23.00** Т/с **«ГОРОД».**

**2.30** Документальный проект.

## Мир

**6.00** «Миллион вопросов о природе».

**6.10** «Беларусь сегодня».

**6.40** Мультфильмы.

**6.55** «Знаем русский».

**7.50** «Культ/туризм».

**8.20** «Еще дешевле».

**8.55** «Всемирные игры разума».

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.15** «С миру по нитке».

**10.50, 16.15, 19.30, 1.00, 3.30** Т/с **«ОДНОЛЮБЫ».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**2.20** Х/ф **«ПОДКИДЫШ».**

## НТВ-Беларусь

**5.55** «Астропрогноз».

**6.05** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.35** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

**7.05** Х/ф **«СМОТРИТЕЛЬ МАЯКА».**

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.35** «Однажды...».

**9.15** «Кто в доме хозяин?».

**10.25** «Первая передача».

**11.00** «Чудо техники».

**11.55** «Дачный ответ».

**13.05** «НашПотребНадзор».

**14.05** «Секрет на миллион». Азиза.

**16.20** «Следствие вели…».

**18.00** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.05** «Звезды сошлись».

**21.30** Ты не поверишь!

**22.35** Премьера. «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

**23.05** Х/ф **«НА ДНЕ».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Т/с **«АВТОШКОЛА».**

**10.10** «Сам себе режиссер».

**11.00** ВЕСТИ.

**11.20** «Сто к одному».

**12.15** «Утренняя почта».

**13.00** «Когда все дома с Тимуром Кизяковым».

**14.00** «Смехопанорама».

**14.30** ПРЕМЬЕРА. «Смеяться разрешается».

**16.20** «Все песни для тебя». Праздничный концерт, посвященный Дню матери.

**18.00, 21.55** Х/ф **«ТРЕТИЙ ДОЛЖЕН УЙТИ».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.15** «В людях».

**23.05** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**23.45** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

## кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 17.25** Робин Гуд: Принц воров. **9.20** Ультиматум Борна. **12.00** К-9: Собачья работа. **13.55** Зелёная миля. **20.10** Капитан Крюк. **22.50** Эволюция Борна. **1.25** Королева Испании. **3.45** Гостья.

### TV1000 ACTION

**7.35** Переговорщик. **10.40** Овердрайв. **12.20** Наёмник. **14.25** Перестрелка. **16.05** 13-й Район: Ультиматум. **17.55** Другой мир: Восстание ликанов. **19.35** Другой мир: Пробуждение. **21.10** Имитатор. **23.35** Эверли. **1.10** Страховщик. **3.05** Мачете. **5.10** Кикбоксёр возвращается.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.00** Проводник. **8.05** Узник замка Иф. Аз воздам. **10.10** Территория. **13.25** Дурак. **15.40** Любовь в большом городе 2. **17.35** Неуловимые: Бангкок. **19.10** Нереальная любовь. **20.45, 5.40** Мужчина с гарантией. **22.25** Царь. **0.45** Позвоните Мышкину. **2.20** Бармен. **4.10** Любовь в большом городе 3.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **9.00** «Новый день». **11.30, 12.30** Т/с **«НАПАРНИЦЫ». 13.30** Х/ф **«БОЙСЯ СВОИХ ЖЕЛАНИЙ». 15.15** Х/ф **«АСТРАЛ: ГЛАВА 3». 17.00** Х/ф **«АСТРАЛ: ПОСЛЕДНИЙ КЛЮЧ». 19.00** Х/ф **«ХИЖИНА В ЛЕСУ». 21.00** Х/ф **«ДОБРО ПОЖАЛОВАТЬ В ЗОМБИЛЭНД». 22.45** «Мама Russia». **23.45** Х/ф **«ЧЕЛЮСТИ 2». 2.00, 2.30** «Охотники за привидениями. Битва за Москву». **3.15, 3.45, 4.15, 4.30, 5.00, 5.30** «Охотники за привидениями».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00** Т/с **«ПОДРУГА БАНКИРА». 12.00, 13.00** Т/с **«НА ПУТИ К СЕРДЦУ». 14.00, 15.00** Т/с **«ФАЛЬШИВОМОНЕТЧИКИ». 20.00, 21.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ ПО ПРИКАЗУ». 22.00, 23.00** Т/с **«ЖИЗНЬ, КОТОРОЙ НЕ БЫЛО». 2.00, 3.00** Т/с **«АЛЕКСАНДРОВСКИЙ САД». 4.00, 5.00** Т/с **«УЛЫБКА ПЕРЕСМЕШНИКА». 6.00, 7.00** Т/с **«НАЧАТЬ СНАЧАЛА. МАРТА».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.30** Х/ф **«ТАКСИ 3». 2.30** Х/ф **«ТАКСИ 4». 4.35** Х/ф **«ТАКСИ 5». 6.30** Х/ф **«ЗАМУЖ НА ДВА ДНЯ». 8.30** Х/ф **«БЕЛОЕ ВИНО ИЗ БАББУДОЙУ». 10.30** Х/ф **«СЛУЧАЙНЫЙ МУЖ». 12.10** Х/ф **«ПРОДВИНУТЫЙ». 13.50** Х/ф **«АГЕНТ 117: МИССИЯ В РИО». 15.50** Х/ф **«ЭТОТ НЕЛОВКИЙ МОМЕНТ». 17.50** Х/ф **«НИЧЕГО НЕ ВИЖУ, НИЧЕГО НЕ СЛЫШУ». 19.50** Х/ф **«АНАНАСОВЫЙ ЭКСПРЕСС: СИЖУ, КУРЮ». 22.00** Х/ф **«ПРИЛИЧНЫЕ ЛЮДИ». 23.50** Х/ф **«ОГНИ БОЛЬШОЙ ДЕРЕВНИ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.20, 1.15, 2.15, 3.05, 4.00, 4.45, 5.35, 6.20, 7.05, 8.05, 9.05** Карточный домик. **10.15, 11.15, 12.20, 13.25, 14.25** Крик совы. **15.30, 16.25, 17.25, 18.25, 19.25, 20.25, 21.25, 22.25** Гетеры майора Соколова. **23.25** Зыбь.

### ВТВ

**6.00, 7.15, 8.15, 9.15, 10.40, 12.15, 14.40, 15.45, 18.00, 19.45, 21.20, 22.25** Прогноз погоды на неделю. **6.05** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.20** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **8.20** Скетч-шоу «ОДНА ЗА ВСЕХ». **9.20** Мультфильмы «ДЖИНГЛИКИ». **9.50** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **10.10** Мультфильмы «ТИМОН И ПУМБА». **10.45** Шоу «ДЕТСКИЙ КВН». **11.40** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.20** Т/с **«СЧАСТЛИВЫ ВМЕСТЕ». 14.45** Юмористическое шоу «ШОУ ВЫХОДНОГО ДНЯ». **15.50** Х/ф **«ПЛАН ПОБЕГА». 18.05** Х/ф **«БЕЛКА И СТРЕЛКА: ЗВЁЗДНЫЕ СОБАКИ». 19.50** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **21.25** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ». **22.30** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **23.15** «КВН. ПА-НАШАМУ». **0.15** Т/с **«ЛОНДОНГРАД». 2.05** Кулинарное-шоу «ПРОСТО КУХНЯ». **2.35** Make-over шоу «РОГОВ. СТУДИЯ 24». **3.25** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.40** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.10** Теннис. WTA. Люксембург. Полуфиналы. **9.15** Теннис. WTA. Кубок Кремля. Полуфиналы. **12.25** Футбол. Чемпионат Англии. Челси – Ньюкасл. **14.20** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. Торпедо-БелАЗ (Жодино) – Ислочь (Минский р-н). **16.20** Теннис. ATP. Стокгольм. Финал. **18.10** Вот это спорт! **18.20** Спорт-центр. **20.20** Пит-стоп. **20.50** Теннис. WTA. Кубок Кремля. Финал. **22.55** Итоги недели. **23.40** Теннис. WTA. Люксембург. Финал.

### EUROSPORT 1

**0.35, 6.00** Настольный теннис. Кубок мира. Китай. Женщины. 1/4 финала. **1.35, 7.30, 13.10** Велоспорт. «Тур Ломбардии». **2.35** Watts. **2.45, 8.30** Велоспорт. «Тур Парижа». **4.00, 9.30, 14.00** Снукер. English Open. 1/2 финала. **10.30** Лёгкая атлетика. Марафон. Амстердам. **14.45, 19.30, 20.45** Снукер. English Open. Финал. **18.00** Настольный теннис. Кубок мира. Китай. Женщины. Финал.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 1.00, 1.40, 2.10** От Кавказа до Аравии. **6.30** Сити-тестер. **6.55** Вторичка. **7.10** Сравнительный тест. **7.40, 10.20, 13.30, 16.30, 19.20, 23.50, 1.30, 3.40** Итоговые новости. **7.50** Вечер с Пикуленко. **8.35** Автовинтаж. **9.05** Автодело. **9.35, 9.50, 10.05** Дома на колесах. **10.35, 11.00, 19.35, 20.00, 22.35, 23.00, 2.55, 3.15** Гаражная команда. **11.25, 20.25, 3.55** Сделано в России. **11.50, 20.55, 0.00, 4.20** Школа внедорожного вождения. **12.05, 12.35, 13.00, 13.45, 14.10, 14.40, 15.10, 15.35, 16.05** Кругосветка по бездорожью. **16.45, 17.15, 17.45, 18.20, 18.50** Покорители Азии. **21.10, 4.35** Резьба по стали. **21.40, 5.05** Поездка выходного дня. **22.05, 5.30** Авто: вторые руки. **22.20, 5.45** Хорошо забытое. **23.20** Тест на «Драйве». **0.15** Комплектация. **0.45, 2.40** Все включено.

### EXPLORE

**6.00, 6.20, 6.45, 7.15, 7.40, 8.05** Битва за карпов. **8.35, 9.15** Крупная и злая рыба. **10.00, 10.50** Большое рыболовное состязание. **11.40, 12.25, 13.10, 14.00, 14.45** Австралийские золотоискатели. **15.30, 15.55, 16.20, 16.45** Нефритовая лихорадка. **17.10, 18.00** Переделка старья. **18.45, 19.40** Тренировка по древним традициям. **20.30, 21.15, 22.00, 22.45, 23.30** Поисковая команда в Австралии. **0.15, 1.00, 1.45, 2.30, 3.20, 4.05, 4.50** Выжить на Аляске. **5.35** Как работают лайфхаки.

### HISTORY

**6.15** Запретная история. **7.10, 8.10, 9.05, 10.00, 11.00** Загадки Египта. **11.55** Невероятные изобретения. **12.25, 13.25** Николай и Александра: последние монархи России. **14.25, 15.25, 16.20, 17.15, 22.00, 22.55** Частная жизнь. **18.15, 19.05** Величайшие мистификации в истории. **20.00** 5000 лет истории Нила. **21.00** Разгадка тайны пирамид. **23.50** Королевская семья, британская аристократия и нацисты. **0.55, 5.45** Родовые проклятья. **1.20** Тайны Парижа. **1.50, 2.55** Вторая мировая в цвете. **4.00, 4.50** Музейные тайны.

### NATURE

**6.15, 6.35, 7.00** Лучшие друзья собаки. **7.20, 7.45, 8.10, 8.35, 9.00** 100 самых популярных пород собак. **9.25, 10.15, 11.10** Великие миграции в природе. **12.00, 12.30, 13.00, 13.30** Уличный ветеринар. **14.00, 14.50** Ветеринар из глубинки. **15.35, 16.30, 17.20, 18.15** Дикая Швейцария. **19.05, 20.00, 20.50** Дикая Бразилия. **21.45** Огромные звери: последние из великанов. **22.40** Загадки исчезнувших великанов. **23.35** Эволюция в действии. **0.30** Экспедиция в Европу. **1.25** Эхо динозавров. **2.20, 3.10, 3.55** Суперветеринар. **4.40, 5.10, 5.35** Новорожденные в зоопарке.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Самые удивительные фотографии National Geographic. **6.25, 5.10** Панорама 360. **7.15, 8.00** На плотах по Юкону. **8.50, 9.35** Национальные парки Америки. **10.20** Враждебная планета. **11.15, 12.00** Начало. **12.50, 13.35** Дикий тунец. **14.25, 15.10, 15.55** Инстинкт выживания. **16.40, 17.25, 18.15** Служба безопасности аэропорта: Перу. **19.45, 20.30** Суперсооружения. **21.20** Суперсооружения: чудеса инженерии. **22.50, 23.40** В поисках наследия. **0.25** Опасные путешествия. **1.15, 2.00** Авто – SOS. **2.50, 3.35** Исследователь 2.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 23.05** Спиннинг сегодня. **6.25, 23.35** Охота и рыбалка в. **6.55, 0.05** Охоты и охотники. **7.10, 18.00** Рыболовные путешествия. **8.05** Охота: собачья работа. **8.40, 20.05** Научи меня рыбачить. **9.10, 15.45, 20.35, 3.15** Нахлыст. **9.35, 16.15, 21.05, 3.45** Кулинарное путешествие с Глебом Астафьевым. **10.05** Карпфишинг. **10.35, 22.05** В Индийском океане. **11.05, 17.30, 1.20, 5.05** Оружейный клуб. **11.30, 19.10, 1.50, 5.35** Планета рыбака. **12.00, 0.25** Дикая кухня. **12.50, 18.50, 1.10** Дело вкуса. **13.05** Рецепты Древней Колхиды. **13.20** Охота в Новом Свете. **13.45** Андрей Старков и его команда. **14.15** Рыболовные экспедиции в Норвегию. **14.45** На рыбалку с охотой. **15.15** Поехали на рыбалку! **16.45, 4.10** Нож-помощник. **17.00, 4.25** Охотничьи собаки. **19.40, 2.15** На рыбалку вместе с папой. **21.35** Загадки толстолобика. **22.35** Фишермания. **2.40** Энциклопедия рыбалки. **4.50** Особенности охоты на Руси.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.05, 14.05, 18.10, 22.15, 2.15** Большие идеи для маленького сада. **7.00, 11.05, 15.10, 19.15, 23.20, 3.15** Мультиварка. **7.15** Огород круглый год. **7.45, 11.50, 15.55, 20.00, 0.05, 3.55** Урожай на столе. **8.15, 12.20, 16.25, 20.25, 0.35, 4.20** Лучки-пучки. **8.30, 12.35, 16.40, 20.45, 0.50** Цветик-семицветик. **8.45, 12.50, 16.55, 21.00, 1.05, 4.50** Высший сорт. **9.05, 13.05, 17.10, 21.15, 1.15, 5.05** Альтернативный сад. **9.35, 13.35, 17.40, 21.50, 1.45, 5.35** Секреты стиля. **11.20, 19.30, 3.25** Гвоздь в стену. **15.25** Огород круглый год. **15.40** Огород круглый год. Осенние работы. **23.35** Дачные радости с Мариной Рыкалиной. **4.35** Соленья-варенья-маринады.

# Як Радашкавічы страцілі цікавы будынак, але займелі шанец вярнуць з небыцця замак

МАЛАДЗЕЧНА

**Старадаўняе мястэчка Радашкавічы займае адметнае месца ў гісторыі нашай краіны.**



Будынак школы, які знеслі ў гэтым годзе.

У 1920-х гадах тут дзейнічаў важны цэнтр беларускай нацыянальнай культуры – гімназія імя Францыска Скарыны, заснаваная Таварыствам беларускай школы. Праз Радашкавічы прайшлі жыццёвыя шляхі многіх славутых асоб, сярод якіх Янка Купала, Браніслаў Тарашкевіч, Язэп Драздовіч, Аляксандр Уласаў, Ядвігін Ш, Максім Танк, іншыя.

### Драўляная школа

Акрамя таго, гэта вядомы цэнтр ганчарства і курортнага адпачынку, праз які пралягае некалькі экскурсійных маршрутаў. Большасць цікавостак размяшчаецца ў цэнтральнай частцы мястэчка, архітэктурнае аблічча якой істотна змянілася з нядаўнім зносам пасляваеннай драўлянай школы.

Гэта быў цікавы і досыць нетыповы будынак для часу, паводле пашпарта – 1959 год пабудовы. Нават у вёсках з'яўляліся ўжо збольшага мураваныя школы. Радашкавічы ж на той момант мелі статус райцэнтра, але школу вырашылі ўзводзіць з дрэва, ды яшчэ і па праекце, які моцна нагадваў польскую міжваенную архітэктуру.



Карта 1938 года.



Аэрафотаздымак 1944 года з калекцыі Змітра Брыштэна. Справа выдзелены магчымы стаў на рацэ Гуйка.

Да нашага часу будынак дайшоў моцна зношаным і занядбаным, а ў лютым бягучага года яго дэмантавалі. Гэта сумная падзея пазбавіла мястэчка цікавага атмасфернага месца, аднак дзякуючы ёй з'явіўся шанец праліць святло на даўнюю белую пляму ў гісторыі Радашкавічаў – месцазнаходжанне зніклага драўлянага замка 16 стагоддзя. На сёння невядома, дзе менавіта стаяў замак, але даступныя нам дакументальныя крыніцы дазваляюць дакладна акрэсліць тэрыторыю магчымых пошукаў. Участак, на якім размяшчалася знесеная драўляная школа, поўнасцю ў гэту тэрыторыю ўваходзіць і раней не быў даследаваны археолагамі. Цалкам верагодна, менавіта тут шмат стагоддзяў таму білася сэрца старадаўняга горада.

### Замак

Упершыню Радашкавіцкі замак згадваецца ў інвентары за 1549 год. Тады па загадзе вялікага князя Жыгімонта II Аўгуста правялі «списанье и выведанье замков, дворов и волостей», што адышлі вялікаму князю як вымарачная маёмасць пасля смерці мінулай гаспадыні – Соф'і Васільеўны, княгіні Вярэйскай.

Дзякуючы інвентару мы можам добра ўяўляць, як выглядаў Радашкавіцкі замак. Перш за ўсё звяртаецца ўвага на ягоную выцягнутую форму – «накшталт карабля». Гісторык архітэктуры **Тамара Габрусь** зрабіла графічную рэканструкцыю, якая добра дэманструе гэта падабенства.

Размяшчаўся замак паміж рэкамі Вязынкай і Гуйкай, недалёка ад месца, дзе яны зліваюцца ў большую раку Рыбчанку. Гісторык **Юры Бохан** (а раней **Генадзь Кахаsucceeded**

Каханоўскі) ў кнізе «Повязь часоў») піша наступнае: «... пры мястэчку на гэтых рачках існавалі тры ставы, размешчаныя непадалёк адзін ад аднаго. Першы знаходзіўся на рацэ Вязынь. [...] Другі стаў размяшчаўся на рацэ Гуйка і трэці – пры зліцці Гуйкі і Вязынкі. [...] Ставы ўтваралі своеасаблівую выспачку, на якой на «капцы сыпаным» узвышаўся драўляны замак».

Замак меў пяць вежаў, чатыры з якіх знаходзіліся па перыметры і яшчэ адна, пятая, размяшчалася на замкавым двары. З паўднёвага боку знаходзілася брамная вежа з пад'ёмным мостам. Злева ад яе, на адлегласці ў 20 сажняў, размяшчалася вежа, у якой знаходзілася капліца. У 40 сажнях ад каплічнай вежы, бліжэй да месца зліцця Вязынкі і Гуйкі, стаяла рагавая вежа. Чацвертая вежа, якая называецца ў інвентары «круглай», размяшчалася паміж рагавой і брамнай вежамі.

На сучаснай карце Радашкавічаў можна паглядзець, як цяпер выглядае згаданае месца паміж рэкамі. Выцягнуты замак «накшталт карабля» мог размяшчацца паміж закругленнем вуліцы Тарашкевіча і месцам зліцця Гуйкі ды Вязынкі. Чырвоным колерам выдзеленая ўжо неіснуючая пасляваенная драўляная школа, тэрыторыя якой магла часткова ці цалкам уваходзіць у межы Радашкавіцкага замка.

**Зміцер БРЫШТЭН, Наталля ВОЛКАВА, Уладзімір САДОЎСКІ.**
**Фота забяспечанае аўтарамі.**

КАЛЯНДАР

11 КАСТРЫЧНІКА
**1967.** Пачаліся масавыя хваляванні каля слуцкага суда, якія пазней выліліся ў сутыкненне з сілавікамі. У пажары згарэла суддзя **Галіна Аляксеева**. У дыме задыхнуўся начальнік слуцкай КПЗ капітан міліцыі **Станіслаў Татур**. Капітан **Ягораў** памёр у шпіталі.

12 КАСТРЫЧНІКА
**1920.** Абвешчаная Сярэдняя Літва, асобнае дзяржаўнае ўтварэнне на тэрыторыі Віленшчыны і Гродзеншчыны.

13 КАСТРЫЧНІКА
**1888.** Нарадзіўся **Язэп Драздовіч**, беларускі мастак, скульптар, этнограф (памёр у 1954). У 1920-х працаваў у Радашкавіцкай беларускай гімназіі імя Францыска Скарыны.



14 КАСТРЫЧНІКА
**1964.** У СССР адхілілі ад улады Мікіту Хрушчова. Новым першым (ад 1966 года – генеральным) сакратаром КПСС стаў Леанід Брэжнеў.

15 КАСТРЫЧНІКА
**1953.** На Мінскім трактарным заводзе выраблены першы трактар «Беларусь» на колах.

16 КАСТРЫЧНІКА
**1988.** На цэнтральным тэлебачанні СССР пачаўся паказ тэлесерыяла «Рабыня Ізаўра» – першага бразільскага серыяла на савецкім тэлебачанні.

17 КАСТРЫЧНІКА
**1865.** У фальварку Пераходы паблізу Смаргоні нарадзіўся **Люцыян Жалігоўскі**, польскі вайсковы і палітычны дзеяч, генерал.



Падрыхтаваў **Мікола ГАЙДУК.**

# «Я – не лідар, проста раблю, што лічу

## У рэдакцыі «Рэгіянальнай газеты» зладзілі круглы стол «Жаночае лідарства»



Фота Валянціны ТАРХАН.

Падчас свята да Дня ведаў, якое зладзілі актывісты ў рамках ініцыятывы «Наш двор».

МАЛАДЗЕЧНА

**Як жанчыне сумяшчаць сямейныя клопаты і грамадскую дзейнасць? З якімі цяжкасцямі сутыкаецца жанчына, калі яна лідар? На гэтыя і іншыя пытанні адказалі ўдзельнікі круглага стала «Жаночае лідарства». Мерапрыемства ладзілі 4 кастрычніка ў рэдакцыі «Рэгіянальнай газеты».**

У абмеркаванні ўдзельнічалі старшыня маладзечанскай украінскай суполкі «Краяны» **Ясенія Мікуліч**, педагог-арганізатар Маладзечанскага музычнага каледжа імя Агінскага, сябра фонду імя Агінскага **Алеся Каролік**, заснавальнік аб'яднання бацькоў «Бумеранг дабра» ў Маладзечне **Вольга Юргевіч**, прадстаўніца грамадскага аб'яднання «Некст Стоп – Нью Лайф» **Ірына Тархан**.

Вяла круглы стол журналіст **Аксана Ярашонак**.

**Аксана Ярашонак:**

**– Раскажыце пра сваю грамадскую дзейнасць і крыху пра сябе ў ёй.**

**Ясенія Мікуліч (ЯМ):**

**– Я старшыня «Краянаў» – украінскай суполкі ў Маладзечне. У суполцы – 47 чалавек. Мы папулярызуем украінскую культуру. Запусцілі бясплатныя курсы ўкраінскай мовы ў Маладзечне. Першы раз прыйшло каля 20 чалавек.**

Мне цікавая ўкраінская культура і песні. Сама маю ўкраінскія карані. Шмат спяваю на розных мерапрыемствах песень па-ўкраінску, рускую, беларускую. Амаль штогод ездзім на фестываль нацыянальных культур у Гродна. «Краяны» ідуць і едуць усюды, дзе іх запрашаюць. Можам самі цалкам скласці і правесці канцэрт. Цяпер у нас у суполцы з'явіліся новыя людзі. Яны ў сталым узросце і цудоўна спяваюць па-ўкраінску. Хочацца, каб пра іх у горадзе больш даведаліся.

**Сама я маю чацвярых дзяцей і ўжо бабуля. Працую рабочай на дрэваапрацоўчым заводзе ў Чысці 15 гадоў, але сёлета паступіла вучыцца ў эканамічны ўніверсітэт.**

**Алеся Каролік:**

– Працую ў музычным каледжы педагогам-арганізатарам, а яшчэ ў нас ёсць фонд імя Агінскага. Займаюся моладзевымі праектамі па праграме «Эразмус Плюс». Моладзь шасці краін прыязджае да нас у каледж. На працягу тыдня мы сустракаемся, абмяркоўваем розныя тэмы.

Калі казаць пра актывізм, то тут усё, што звязанае з беларускай мовай і беларускай культурай. Сёння гэта вельмі актуальна.

Сябруем з кампаніяй «Будзьма беларусамі», электроннай бібліятэкай «Камунікат».

**У маёй дзейнасці мне вельмі пашанцавала з кіраўніком. Рыгор Сарока – сапраўдны сумленны беларус.**

Я прыйшла ў каледж у 2016 годзе. Калі сказала пра супрацоўніцтва з «Будзьма», некаторыя ў калектыве казалі, што гэта ж нейкая апазіцыя. А цяпер прыемна, што на педагагічных нарадах прыгадваюць пра наша супрацоўніцтва і кажуць, што мы робім добрую справу.

**Вольга Юргевіч:**

– Наша аб'яднанне ініцыятыўных бацькоў «Бумеранг дабра» ўзнікла з суполкі. Мы аб'ядналіся для дапамогі дзецям і бацькам, якія маюць у гэтым патрэбу.

Наша некамерцыйная арганізацыя ўзнікла сёлета ў красавіку. Зразумелі, што ў горадзе шмат неабыякавых людзей, якія гатовыя аб'ядноўвацца і дапамагаць.

**За паўгода мы дапамаглі грашыма і рэчамі дзевяці сем'ям, зладзілі дзве дабрачынныя трэніроўкі ў гарадскім парку. Правялі два вялікія зборы рэчаў.**

Усім горадам збіралі цацкі, канцылярыю, гігіенічныя сродкі, а потым адвезлі іх у медустановы, перадалі дзецям, зладзіўшы пры гэтым забаўляльную праграму.

Каб далучыць людзей да дабрачыннасці, ладзім майстар-класы. 12 кастрычніка ў нас пройдзе семінар для мам. Узяліся за новы для нашага горада праект «Бальнічны клоўн». За мяжой нават ёсць такая прафесія. А ў нас пакуль такая ініцыятыва ўспрымаецца насцярожана. Былі пэўныя перашкоды, але ўсё ж нам дазволілі. Хутка будзе трэнінг, дзе валанцёраў будуць вучыць бальнічнай клаўнадзе.

**Ірына Тархан:**

– Прадстаўляю рэспубліканскую грамадскую арганізацыю «Некст Стоп – Нью Лайф». Займаемся урбаністыкай, наш праект – «Вуліца стрыт фуда». Ладзім таксама інклюзіўныя праекты. Напрыклад, праект «Супергерой» для сямей, якія гадуюць дзяцей з інваліднасцю.

Мая ініцыятыва – гэта «Наш двор». Я аб'яднала жыхароў пяці шматкватэрных дамоў. Разам мы аднаўляем традыцыі двара, праводзім святы.

13 кастрычніка ў нашым двары будзе восеньскае свята ўраджаю «Яблычны пірог».

Самае першае свята – Масленіца – сабрала каля 60 чалавек. Ладзілі мерапрыемствы двара і да Дня абароны дзяцей, і да Дня ведаў. 2 верасня да нашага свята ўжо далучылася чалавек сто.

Ладзім таксама і суботнікі. У двары з'явіліся новыя лавачкі і прыгожыя шпакоўні.

Інфармацыю пра свае актыўнасці размяшчаем у сацыяльных сетках і ў «Рэгіянальнай газеце».

Аксана Ярашонак:

**– Што ў вашым разуменні «жанчына-лідар» і ці лічыце вы лідарам сябе?**

**Ясенія Мікуліч:**

# патрэбным»


Аксана Ярашонак.


Ясенія Мікуліч.


Вольга Юргевіч.


Алеся Каролік.


Ірына Тархан.

**– У грамадстве не заўсёды гатовыя даць жанчыне быць лідарам. Нас часта лічаць слабымі. Хацелася б больш разумення, каб не баяцца зайсці ў кабінет. Гэта добра, калі ў нас ёсць жаданне адчуваць сябе і жанчынай, і лідарам, і мамай, і бабуляй.**

**– Ясенія Мікуліч.**

– Канешне, я лічу сябе лідарам. Я ж мама чацвярых дзяцей. А гэта таксама лідарства. Я імкнуся да лідарства. Гэта – маё. Побач са мной добрыя людзі. І я па магчымасці заўсёды дапамагу і падтрымаю.

**Алеся Каролік:**

**– Для мяне жанчына-лідар – гэта моцная асоба, якая давядзе сваю думку. Людзі пачуюць яе і пойдуць за ёй. І пры гэтым яна не ператворыцца ў цётку-сцерву.**

Пра сябе я стараюся казаць, што я лідар. Для мяне гэта вельмі адказны статус. Да таго ж у нашым грамадстве жанчыны-лідары часам сутыкаюцца з мужчынамі, якія не любяць такіх жанчын. Але калі я нешта раблю і людзі мяне слухаць, то, напэўна, я – лідар.

**Вольга Юргевіч:**

– Сябе я да лідараў не адношу, бо сарамлівая. Проста я раблю тое, што лічу правільным і патрэбным. Часам я баюся пайсці ў нейкі кабінет у райвыканкам. Але іду, хоць нервуюся і хвалююся, бо ведаю, што гэта неабходна і прынясе некаму карысць.

Для мяне жанчына-лідар – гэта чалавек з моцным характарам, харызматычная, амбіцыйная. Гэтыя якасці не залежаць ад полу і аднолькава могуць быць уласцівыя як мужчынам, так і жанчынам.

**Ірына Тархан:**

– Не магу сказаць, што я – лідар. Думаю, што я і лідарства – рэчы несумяшчальныя.

Аксана Ярашонак:

**– Але ж вы змаглі арганізаваць сто чалавек.**

**Ірына Тархан:**

– Сама ў шоку. Лічу, што жанчына, нават калі яна лідар, наўрад ці зробіць нешта адна. Абавязкова павінны быць нехта, хто падтрымае: муж, сусед, сяброўка. Мне пашанцавала. У мяне, напрыклад, ёсць суседка, з якой мы на адной хвалі. Ёсць і сусед, у якога я пытаюся: «Андрэй, зробім?». І ён адказвае «Зробім!». Я ведаю, што ў мяне ёсць апора, і гэта дапамагае. А яшчэ ўсё, што я раблю па праектах, я раблю, перш за ўсё, для сваіх дзяцей. Калі казаць пра ініцыятыву «Наш двор», то тут прыклад з уласнага дзяцінства. Прыгадваю, як мой бацька заўсёды мог арганізаваць жанчын-суседак, напрыклад, зрабіць градкі ў двары. І сёння жыхары двара згадваюць бацьку добрым словам.

Аксана Ярашонак:

**– Як сёння ў нашым грамадстве ставяцца да жанчыны-лідара?**

**Ясенія Мікуліч:**

– У грамадстве не заўсёды гатовыя даць жанчыне быць лідарам. Нас часта лічаць слабымі. Хацелася б больш разумення, каб не баяцца зайсці ў кабінет. Гэта добра, калі ў нас ёсць жаданне адчуваць сябе і жанчынай, і лідарам, і мамай, і бабуляй.

Аксана Ярашонак:

**– Як вас у «Краянах» успрымаюць як кіраўніка?**

**Ясенія Мікуліч:**

– Вельмі добра. Хоць адразу я хвалявалася, але цяпер не шкадую, што прыняла кіраўніцтва. Раней быў кіраўніком **Леанід Лысакабылка**. Цяпер ён вельмі дапамагае мне, вучыць украінскай мове.

**Алеся Каролік:**

– Час рухацца. І ва ўспрыманні жанчыны-лідара ёсць станоўчыя змены. Людзі шмат вучацца, удзельнічаюць у семінарах.

**Многія пачынаюць разумець, што жанчына павінна не толькі стаяць ля пліты і гадаваць дзяцей. На рабоце некаторыя не заўсёды ўспрымаюць мяне як лідара. Але гэта дакладна не пра дырэктара.**

Рыгор Сарока – малайчына. Ён сам вельмі моцны лідар. Сваім лідарствам натхняе і падштурхоўвае мяне да спраў.

**Вольга Юргевіч:**

– Мне шанцавала. А можа, я проста не звяртала ўвагі на тое, што жанчыну-лідара ўспрымаюць неяк не так. Рабіла патрэбную справу і ўсё. Ёсць крыху іншая праблема. Калі прыходзіш у нейкі кабінет і цябе там не ведаюць, могуць не паслухаць. Калі заручышся падтрымкай уплывовага чалавека, тады ўсё лепш атрымоўваецца.

**Ірына Тархан:**

– Што грамадства ні казала б, але калі пазнаёмішся з іншымі актывістамі, бачыш трох мужчын з дваццаці чалавек. Я шмат езджу на семінары і бачу гэта. Можна зрабіць выснову: хто, калі не жанчына?

**Алеся Каролік:**

– Але ж калі паглядзець на кіраўнікоў, дэпутацкі корпус, то тут амаль усе мужчыны. Напрыклад, у нас у каледжы – большасць мужчын у кіраўніцтве. Прэзідэнцкі апарат – таксама.

**Ірына Тархан:**

– Але звярніце ўвагу. Калі мы вучыліся ў школе, дырэктарамі былі пераважна мужчыны. А цяпер – наадварот. Гэта жанчыны. І яны робяць важныя канкрэтныя крокі для горада. І яшчэ паглядзіце, хто звычайна ў бацькоўскім камітэце? Мамы.

**Алеся Каролік:**

– Так. Але гэта дробныя структуры.

**Ясенія Мікуліч:**

**– Так, дробныя. Толькі справы робяць вялікія.**

**Ірына Тархан:**

– І самае складанае тое, што жанчыне, хоць яна і лідар, даводзіцца стукацца ў кабінеты да мужчын, якія на высокіх пасадах. Заўважыла таксама і тое, што мужчына часцей заўважвае ў жанчыне лідарскія якасці і будзе яе за гэта паважаць. А вось жанчына можа нават раўнаваць.

Аксана Ярашонак:

**– Як вы сумяшчаеце сям'ю і грамадскую дзейнасць?**

**Ясенія Мікуліч:**

– Я даўно ў музыцы. З тых часоў, калі дзеці былі маленькія. У той час я гадавала іх адна. Але знаходзіла час збегаць на хор. Я згатую есці, пабягу спяваць, а яны ўчацвярых мяне чакаюць дома. Прыбягаю дамоў, пасля на працу. Дзяцей – некага ў садок, некага ў школу. Спевы мне даюць жыццё. Рада, што дзеці мяне падтрымліваюць. Тры дачкі скончылі музычную школу, сын навучыўся сам іграць на гітары. Я ўсім дала адукацыю. Часам нават сама сабе здзіўляюся. Муж таксама мяне падтрымлівае. Толькі кажа, што калі я яшчэ пачну займацца танцамі, то ён не пацягне гэта. На працы мяне падтрымлівае мой дырэктар. Заўсёды адпускае на канцэрты. Падтрымлівае дзейнасць «Краянаў» і кіраўніцтва Маладзечанскага райвыканкама.

**Алеся Каролік:**

– Мне прасцей, чым іншым. Бо сям'і пакуль няма.

**Часам думаю, ці пацягну я ўсё, калі з'явіцца сям'я. Але паглядзіш на такіх жанчын, як Ясенія, і разумееш, што ўсё магчыма.**

Ёсць выхадныя дні, калі сустракаюся з сябрамі. Сябры – гэта мае аднадумцы, мы ў адной дзейнасці. Таму часам не размяжуеш, дзе праца, а дзе адпачынак.

**Вольга Юргевіч:**

– Працуем разам з мужам. Вось цяпер я ў вас, а ён за мяне працуе. Калі ты займаешся грамадскай дзейнасцю, трэба, каб побач быў чалавек, які цябе падтрымлівае. Звычайна гэта муж. Муж адной сяброўкі вязе рэчы ў бальніцу, муж іншай церпіць, што адзін пакой у кватэры цалкам завалены сабранымі рэчамі.

**Ірына Тархан:**

**– Сумяшчаць, канешне, нялёгка. Часам прыходзіцца з'язджаць на некалькі дзён, часам позна вяртаюся. Але стараюся хоць кніжку сыну перад сном пачытаць. 15-гадовая дачка ўжо са мной у праектах. Дапамагаюць муж і мама.**

Аксана Ярашонак:

**– Што вы можаце сказаць у падвядзенне вынікаў?**

**Ясенія Мікуліч:**

– Дзякуй, што запрасілі і паднялі такую важную тэму. Рада новым знаёмствам.

**Алеся Каролік:**

– Класна, што сабралі людзей з розных сфер. Часам падаецца, што я адна нешта хачу рабіць. Думаеш, ці трэба гэта. А на такіх мерапрыемствах бачыш, што ёсць яшчэ такія ж людзі. І разумееш, што ўсё робіш правільна.

**Вольга Юргевіч:**

**– Добра, што мы сабраліся. Бачу, што можам зрабіць нешта агульнае. Добра, што тэму жаночага лідарства паднялі ў Маладзечне.**

**Ірына Тархан:**

– Часам апускаюцца рукі, не хочацца нічога рабіць. Тады важна наведаць падобныя сустрэчы, семінары. І зноў з'яўляюцца крылы. Адным пяром у маім крыле была Воля Юргевіч. Я пабачыла, што яна робіць, і падумала: чаму я не змагу? Некалькі год марыла пра ініцыятыву «Наш двор». Але думала: ці варта? Пасля пазнаёмілася з людзьмі, якія займаюцца тым самым у іншых краінах. Зразумела, што і я змагу.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Лідар гурта Sumarok Ігар Палынскі: Кайфую ад усяго, чым займаюся

**Ігар Палынскі займаецца музыкай дзесяць гадоў. Ён тэхнічны рэдактар і карэспандэнт «Рэгіянальнай газеты». З нагоды 10-годдзя яго гурта Sumarok Ігар распавядае, як сумяшчаць музыку і журналістыку, як стаць беларускамоўным там, дзе практычна ўсе гавораць на рускай мове, і як пераехаць у Маладзечна, каб знайсці сябе.**


Фота vk.com/sumarok_band.

Ігар Палынскі падчас аднаго з канцэртаў гурта Sumarok.

## Навучыўся іграць, каб стварыць гурт

Музыка ў дзяцінстве Ігара з'явілася дастаткова рана. Ён расказвае, што ў бацькоў заўсёды былі ў доме касеты і пласцінкі. На яго паўплывала музыка розных накірункаў. Гэта і ABBA, выступленне якой ён убачыў па тэлевізары, і рускі рок – «Наўцілус», Цой… А ў 2007 годзе ў жыцці хлопца з'явіліся «Начныя Снайперы». Тады ён зразумеў, што менавіта гэта музыка – яго музыка.

– Калі мне было гадоў 13, бацька паказаў пару акордаў на гітары. Праўда, сапраўдная любоў да інструмента з'явілася пазней, – расказвае Ігар.

У 2008-м Ігар і яго школьныя сябры нярэдка праводзілі час на полацкіх рок-канцэртах – яны ладзіліся даволі часта. Асабліва падабаліся полацкія гурты Indra і «Версія». Хлопцы нагледзеліся на музыкантаў і зразумелі, што таксама хочуць на сцэну. Тады ўзмоцнена пачалі вучыцца іграць на гітарах. У дзяцінстве Ігар займаўся вакалам у школьным гуртку, таму пытання, хто будзе вакалістам будучага гурта, не стаяла. Да таго хлопец пісаў вершы, і падавалася, што пакласці іх на музыку не стане праблемай.

## Першы канцэрт і тры назвы гурта

На першую рэпетыцыю Ігар і гітарыст **Антон Іваноў** сабраліся 2 чэрвеня 2009 года – гэту дату лічаць днём нараджэння гурта, сёння вядомага як Sumarok. Нанялі студыю, прынеслі гітару, спрабавалі зразумець, што і як робіць сапраўдныя музыканты.

– Пасля той «рэпетыцыі» зразумелі, што практычна нічога не ўмеем, – усміхаецца Ігар. – Пачалі шукаць музыкантаў: неўзабаве з'явіліся яшчэ адзін гітарыст, басіст і барабаншчык. І сталі рыхтаваць праграму.

Першы канцэрт у гурта адбыўся ў жніўні таго ж года.

– У Полацку традыцыйна рабілі вечары памяці **Віктара Цоя.** У 2009-м такі канцэрт мы зладзілі самі. Не ўсё прайшло гладка, але гэта была тусоўка. Мы пазнаёміліся з мноствам музыкантаў, журналістаў і, канешне, атрымалі бясцэнны досвед.

Спачатку гурт Ігара называўся Silence – «цішыня» па-англійску. «Гэта была насмешка з сябе», – кажа Ігар. Калі рыхтаваліся да першага канцэрта, жартавалі, што выйдуць на сцэну і будуць маўчаць, бо не дужа дасканала валодалі інструментамі. Але імпрэза атрымалася гучнай, і пасля яе перайменаваліся ў «Горад N». А праз пяць гадоў яшчэ раз змянілі назву на Sumarok.

– У нас былі песні на беларускай і рускай мовах. І мы зразумелі, што назва павінна быць, так бы мовіць, універсальнай, каб не ўзнікала розначытанняў. І якраз пачуў песню **Дзіяны Арбенінай** пад назвай Sumarok – яна спявалася на прыдуманай мове. Словы так на душу паклалася, спадабалася мелодыкай свайго гучання. У гэтага слова няма канкрэтнага вызначэння. Таму я заўсёды кажу, што кожны, хто паслухае нашы песні, зможа вырашыць, што яно значыць.

## Анлайн-канцэрты – новы фармат, які мае права існаваць

У Полацку ў 90-я і нулявыя быў моцны рокерскі рух. Існавала шмат калектываў, якія актыўна выступалі. З цягам часу ўсё пайшло на спад. Па словах Ігара, цяпер стала менш гуртоў. Пакаленне, якое тусавалася ў той час, ужо вырасла, у іх сем'і, дзеці…

Ігар кажа, што мясцовыя гурты сталі арыентавацца на сталічнага або замежнага слухача, у меншай ступені – на Полацк:

– Музыканты, напэўна, справядліва падумалі: навошта збіраць у Полацку 30 чалавек, калі можна сабраць 300 у Мінску. Гэта лагічная гісторыя ў плане маркетынгу. Але для мяне гэта непрымальна. Ведаю, што буду вяртацца ў Полацк і спяваць для Полацка, дзе б ні быў.

Да таго ёсць шмат людзей, якія не вельмі хочуць хадзіць на канцэрты. Выступленні любых музыкантаў сёння можна свабодна паглядзець на YouTube. Але, кажа Ігар, музыкантам трэба нешта есці, абнаўляць музычныя інструменты. І з'явілася каманда людзей, якія супаставілі абодва факты і вырашылі зрабіць пляцоўку, дзе музыканты могуць іграць канцэрты анлайн і прадаваць на іх білеты.

– Хлопцы прапанавалі мне пасупрацоўнічаць. Мы зробім канцэрт гадзіны на паўтары. Буду спяваць шмат старых песень і новыя. Гэты канцэрт адбудзецца 26 кастрычніка. Там са мной можна будзе паразмаўляць анлайн, задаваць пытанні, нават заказваць песні, – кажа Ігар. – А білет на доступ да трансляцыі каштуе зусім сімвалічныя грошы.

На думку Палынскага, гэты фармат мае права на жыццё: пэўны працэнт забірае платформа, астатняе атрымліваюць музыканты. Для Ігара канцэрт сімвалічны – ён будзе прысвечаны дзесяцігоддзю гурта Sumarok.

## «Стала сорамна, што не магу размаўляць па-беларуску»

Ігар пачаў размаўляць па-беларуску ў 2012 годзе. Хоць у школьныя гады ён быў алімпіяднікам па рускай мове, меў міжнародныя дыпломы, да беларускай ставіўся з інтарэсам:

– Дзе можна было пачуць беларускую мову ў Полацку ў пачатку 2010-х? Амаль што нідзе. Але ў той час я пазнаёміўся са студэнтамі Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта, якія спявалі ў фальклорным гурце «Варган». Яны размаўлялі па-беларуску, і мне стала сорамна, што я так не магу.

Хоць на той момант у гурта ўжо былі песні, напісаныя па-беларуску, той час стаў пераломным. Сёння па-руску Ігар амаль не піша.

Музыкант лічыць, што ў Беларусі шмат людзей, якія любяць і могуць размаўляць па-беларуску. І калі яны будуць размаўляюць на беларускай мове не толькі на ўласных кухнях, але і ў грамадскіх месцах, стан мовы зменіцца ў лепшы бок:

> **– Мова – гэта сродак камунікацыі. Я ўжо гадоў пяць не чую гэтага «гавары нармальна». Усе не толькі разумеюць, але і імкнуцца адказваць па-беларуску.**

## Музыкант, журналіст, муж і бацька

Значная частка беларускіх музыкантаў займаецца нечым, акрамя музыкі. Некаторыя людзі, і музыканты гурта Sumarok у тым ліку, перасталі займацца музыкай, бо не мелі на яе часу, а былі заклапочаныя пытаннем заробку грошай. Сталічныя гурты ў гэтым плане больш стабільныя, кажа Ігар.

Яго сродак да існавання – журналістыка. Ад 18 гадоў Ігар працаваў у полацкай раённай газеце. Спачатку быў апаратарам набору, а потым стаў карэспандэнтам. На мясцовае тэлебачанне пайшоў працаваць, калі яму стала цесна ў фармаце дзяржаўнага выдання:

– На «целеку» ў мяне быў абсалютны выбар у плане тэм, якія я хачу асвятляць. Карыстаўся гэтым: браў культуру, грамадства – і, канешне, імкнуўся рабіць як мага больш сюжэтаў па-беларуску.

Паралельна Ігар завочна скончыў Інстытут журналістыкі БДУ.

У 2018-м ён пераехаў на Маладзечаншчыну і пачаў працаваць у «Рэгіянальнай газеце». Прызнаецца, што было цяжка з'ехаць з Полацка, але не пашкадаваў.

З «РГ» яго пазнаёміла жонка **Дар'я**. Яна часам пісала ў газету, займалася ў Школе маладога журналіста.

– Мы сустрэліся з Даркай у 2012 годзе, яна родам з Краснага, у Полацк прыехала вучыцца. Дарка была беларускамоўнай ужо тады, калі мы сустрэліся. І – вельмі музычнай: іграла на піяніна і аргане. Мы ўзялі шлюб праз два месяцы пасля знаёмства!

Ігар кажа, што ім з жонкай у цэлым падабаецца музыка аднаго кірунку, але іх падыход да музыкі зусім розны. Дарка – больш акадэмічны музыкант, а Ігар можа зрабіць канцэртную праграму за тры дні.

У сям'і Палынскіх двое дзяцей: старэйшы **Ян** і малодшая **Міраслава**. Ігар спадзяецца, што яны вырастуць неабыякавымі да музыкі.

## Бліц-апытанка

**– Самы ўплывовы рок-музыкант Беларусі?**

– Лявон Вольскі. Я не люблю займацца іканатворчасцю, але ён мастадонт беларускага року. Нават каб не было Лявона Вольскага, ён мусіў бы з'явіцца.

**– Журналістыка ці музыка?**

– Сімбіёз. Шмат музыкантаў кажуць, што яны працуюць, каб зарабляць на музыку. Я кайфую ад усяго, чым займаюся: і ад журналістыкі, і ад музыкі. Іначай бы не займаўся :)

**– Queen ці Майкл Джэксан?**

– Queen, хоць Майкл таксама вельмі круты. Але каб у мяне папрасілі выбраць паміж Арбенінай і Сурганавай, я не адказаў бы :)

**– Што сказаў бы ты Арбенінай, калі б яна зараз сядзела перад табой?**

– «Давайце зробім нешта разам, Дзіяна Сяргееўна. Запішам песню па-беларуску, напрыклад».

**Настасся УТКІНА.**

Каб набыць білет і атрымаць доступ да трансляцыі канцэрта лідара гурта Sumarok Ігара Палынскага, які адбудзецца 26 кастрычніка ў 20:30, адсканіруйце QR-код або перайдзіце па спасылцы: **http://bit.ly/sumarok**



# «Нам бы такога міністра». Маё знаёмства з Пятром Краўчанкам

**Чалавек і дзяржаўны дзеяч, нават калі афіцыйна не пры справе, якім паўстаў перада мной і якім уяўляю сабе. Што галоўнае ў гэтай інтэлектуальнай глыбе, чалавеку энцыклапедычных ведаў. Чаму ён прысвяціў жыццё, да чаго рыхтаваўся?**

Асабістай славы прагне чалавек, якому не хапіла ў дзяцінстве цяпла ў бацькоўскім доме. Дзіця, якое вырасла ў добрай сям'і, ставіць перад сабой іншыя мэты.

Ганаруся тым, што маю гонар пісаць пра яго.

### Першае знаёмства

1989 год. Я, сябра камісіі па падрыхтоўцы закона «Аб мовах», яры камуніст і інтэрнацыяналіст, з абурэннем слухаю яго выступленне і заклікі да адраджэння беларускай мовы. Навошта, чаго нам яшчэ не хапае? І хто гэта кажа – сакратар Мінскага гаркама партыі па ідэалогіі!

1990 год. Мы абодва дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР 12 склікання. На пасяджэнні камісіі ВС па міжнародных справах абмяркоўваецца кандыдатура Краўчанкі на пасаду міністра замежных спраў БССР. Я – супраць. І не адзін я. Аргументаў ніякіх, адны эмоцыі – «продажный аппаратчик». «Какая Беларусь, мы граждане СССР»... Ды і якія мы, у асноўнай сваёй масе, былі палітыкі?

На наступны дзень Пётр Кузьміч падышоў да мяне, падзякаваў за шчырае выступленне, спакойна і вельмі пераканаўча пачаў тлумачыць сваё разуменне інтэрнацыяналізму, патрыятызму, значэнне гістарычнага шанца для нашага народа стаць роўным іншым народам і краінам.

Гэта была першая размова з Пятром Кузьмічом, падчас якой я адчуў маштаб гэтай асобы.

У тыя гады мы, на жаль, рэдка з ім размаўлялі і бачыліся. Толькі з часам я даведаўся пра тую тытанічную ношу, якую ўзваліў на сябе – давесці да свядомасці ўсяго свету, што ёсць такая дзяржава Беларусь і яе народ, чым зрабіў свой унёсак у развіццё чалавецтва.

### Мы – не з Расіі

Усведамленне маштабу і значэння гэтай работы пачало прыходзіць пазней і на канкрэтных прыкладах.

Лістапад 1993 года. Парламенцкая дэлегацыя ВС Беларусі, і я ў яе складзе, мы ў мэджлісе Турцыі. У камісіі па ваенных справах нам доўга расказваюць пра сяброўства Турцыі і Расіі. Мы тлумачым, што мы не з Расіі, мы з Беларусі. Здзіўленыя гаспадары просяць паказаць на карце, дзе гэта дзяржава, і распавесці пра яе.

Люты 1994 года. Дэлегацыя камісіі ВС Беларусі па міжнародных справах наведвае Украінскую Раду. Старшыня камісіі па міжнародных справах Рады са смуткам кажа нам: «...вось каб нам такога міністра замежных спраў, як ваш Краўчанка, а то Украіну ведаюць у свеце толькі таму, што ў нас ёсць кіеўскае «Дынама».

Вельмі рэдкія сустрэчы па некалькі гадзін раз на некалькі год. Можа, таму яны так запомніліся. Калі быў паслом Беларусі ў Японіі, Пётр Кузьміч у адзін з адпачынкаў прыехаў з сынам Пятром на нашу Барысаўшчыну, і мы паехалі ў грыбы на маю малую радзіму. Месцы цудоўныя, пейзажы, што заўсёды шчымяць душу. Хаця я там не жыў, а толькі нарадзіўся, ды ў час блакад партызанскай зоны цягалі мяне па лясных зямлянках, ратуючы ад смерці, як і тысячы іншых дзяцей ваенных гадоў. Расказваю яму, а Пётр Кузьміч – гэта генетычная памяць, значыць, твае продкі шмат пакаленняў жылі ў гэтых мясцінах. І ўсё нібыта стала на свае месцы.

Там жа ў лесе, на месцы спаленай і не адроджанай вёсачкі Калянішча, дзе засталіся толькі падмуркі ды зараснікі шыпшыны, Пётр Кузьміч у запале крыкнуў сыну: «Пётр, хутчэй сюды, вось ён, сімвал нашай Радзімы, яе гісторыі і лёсу» і прачытаў верш Дубоўкі «Беларусь мая – шыпшына, Зялёны ліст, чырвоны цвет...».

Мяне гэта хвіліна ўразіла. Я дзясяткі разоў быў тут, ведаў лёс гэтай і іншых такіх жа вёсак, ведаў цяжкую і горкую долю сваякоў і землякоў, але мне ў галаву не прыходзіла звязаць гэты кавалак зямлі з гісторыяй свайго народа.

Аднойчы, у годзе 1995-м, мы ехалі з ім з Маладзечна ў Мінск. І літаральна на кожным кіламетры дарогі, ля кожнай вёскі Пятру Кузьмічу было што расказаць пра людзей, якія тут калісьці жылі.



Пётр Краўчанка ў Маладзечанскім музычным каледжы, кастрычнік 2015 года.

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

### Роднасць душ

Мяне заўсёды ўражвала кола яго знаёмых. Іх цяжка акрэсліць па прафесійнай прыкмеце, не кажучы ўжо пра імёны і прозвішчы. З усімі Пётр Кузьміч размаўляў на роўных, з усімі яму было цікава.

На 50-годдзі Пятра Кузьміча я пазнаёміўся з прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі Беларусі, у прыватнасці з Тамарай Кіршчынай. Былі запрошаныя з жонкай на яе творчую выставу, пабывалі разам з ёй у майстэрні Аляксандра Кішчанкі. Сама ўрачыстасць праходзіла не ў рэстаране, а ў будынку ўніверсітэта, што падкрэсліла блізкасць юбіляра да культуры і навукі Беларусі. Яго любоў да культуры, пастаянная зацікаўленасць да яе здзіўлялі. Тэлефануе мне з Японіі, кажа, што такога чысла будзе прэзентацыя «Новай Зямлі» Якуба Коласа, ілюстраваная Шаранговічам, у гістарычным музеі Мінска, абавязкова пабывай.

Ёсць такое паняцце – роднасць душ. Гэта цяжка сфармуляваць, у кожнага яна свая. Мне падаецца, што з Пятром Кузьмічом я знаёмы ўсё жыццё, усё жыццё ішоў з ім побач. Гэта думка асяніла мяне, калі прачытаў старонкі яго ўспамінаў пра Вільню.

Адкрыццё Вільні ў 1966 годзе мяне проста ўзрушыла. Я пабачыў іншы свет, у якім пасля часта бываў. Да свайго сораму, тады я яшчэ не ведаў месца і значэнне Вільні ў гісторыі нашага народа, яго дзяржаўнасці. Проста хадзіў, глядзеў, дыхаў горадам.

З таго часу шмат дзе быў і што бачыў, але Вільня – як першае каханне, на ўсё жыццё.

А яшчэ – Прага. Аказваецца, у Пятра Кузьміча таксама асаблівыя пачуцці да гэтых гарадоў.

Краўчанка ніколі не наракаў на лёс, прынамсі, пры мне. У 1997 годзе я заехаў да яго дадому. Не ведаў, што ён хварэў, меў праблемы з пазваночнікам. І зноў ні слова пра сябе, толькі пра дзяржаву. Хоць у той час ён не быў запатрабаваны дзяржавай, быў беспрацоўны. Як прызнаўся праз некалькі год, што ў доме ў яго на той момант на ўсю сям'ю было вядро бульбы.

У працяг тэмы дзяржаўнасці хачу прывесці эпізод, удзельнікам якога быў у 1993 годзе. Леанід Жаўтанога прапанаваў ураду Беларусі адну з праграм далейшага развіцця эканомікі. На дакладзе прысутнічалі акрамя прэм'ера Кебіча яго намеснік Мікалай Косцікаў, дарадца Мікалай Скарынін. «Даволі цікава, – заслухаўшы Жаўтаногу, сказаў Кебіч, – А як ваша думка, колькі часу спатрэбіцца на яе ўвасабленне ў жыццё?» «Гады два-тры», – быў адказ. «Праз два гады вы будзеце дакладаць іншаму прэм'еру». Палітычная нестабільнасць навісала над Кебічам, не хапала дзяржаўнай мудрасці і смеласці думаць пра Беларусь. А Краўчанка 29 чэрвеня 1994 года паехаў у Трыест, няглядзячы на фактычную забарону будучай улады, разумеючы наступствы.

Для мяне дарагі адзін надпіс, які зрабіў ён на кнізе «Подзвіг Скарыны». «З удзячнасцю і павагай Івану Іванавічу Трусаву. Ніколі не забуду сяброўскую падтрымку ў неверагодна складаны, па сутнасці, трагічны час. 21 верасня 1994 года».

Я хацеў бы аднаго, каб Пётр Кузьміч, гартаючы сваю запісную кніжку, сярод соцень сваіх знаёмых, хаця б на секунду затрымаўся на маім прозвішчы, а для дзяцей і ўнукаў, каб у роднай Беларусі было паболей такіх чыноўнікаў, як Краўчанка. Інтэлект – гэта тое, чаго нам не хапае.

### Мы – будзем

У лістападзе 1993 года на прыёме ў прэзідэнта Турцыі Сулеймана Дамірэля нехта з нашай дэлегацыі задаў пытанне: «Як Турцыя стала такой развітой дзяржавай?». На што далі ганебны для нас адказ: «40 гадоў таму ў Турцыі не было нават сялян, толькі пастухі і салдаты. У вашай краіне ўсеагульнай пісьменнасці дастаткова трох-пяці год, каб стаць на ўзровень сусветных дзяржаў».

Сталі. Пераважная шэрасць на ўсіх узроўнях апанавала краіну, затармазіла жыццё, і час абагнаў нас. Але, як пісала Ларыса Геніюш: «... не ўчора народ наш паўстаў, Не заўтра канец нам прысудзяць, З мінуўшчыны слаўных падзеяў і спраў, мы ёсць. Мы былі! І мы будзем».

**Іван ТРУСАЎ,**
**дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання (1990 – 1995).**

Пётр Кузьміч Краўчанка. Нарадзіўся 13 жніўня 1950 года. Дзяржаўны дзеяч Беларусі, гісторык, дыпламат. У 1990-94 – міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь. Кіраўнік дэлегацыі Беларусі на 45-48-й сесіях Генеральнай Асамблеі ААН. З 1998 – надзвычайны і паўнамоцны пасол Рэспублікі Беларусь у Японіі. Дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у 1990 і ў 1995-96 – старшыня камісіі па міжнародных справах Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. У дзяцінстве шмат часу праводзіў у бабулі ў Ліцьвінках ля Куранца, жыў з бацькамі ў Маладзечне.

## Шахматысты з Маладзечна і Вілейкі перамаглі ў першым туры абласнога першынства

Першая сустрэча ў межах Мінскага абласнога каманднага турніру «Шахматная ліга» адбылася 6 кастрычніка ў Маладзечне.

Каманда маладзечанскіх і вілейскіх шахматыстаў «Дзевяць фярзёў» перамагла гасцей з «Юнага стратэга», куды ўваходзяць гульцы са Смалявічаў, Жодзіна і Мінска.

Лік гульні па выніках сустрэчы – 30,5 на 17,5 на карысць маладзечанска-вілейскай каманды.

Спаборніцтвы праходзяць па кругавой сістэме і складаюцца з дамашняй і гасцявой сустрэчы 12 на 12. Між сабой гуляюць па тры чацвёркі.

У турніры ўдзельнічаюць таксама каманды з Барысава, Дзяржынска і Мар'інай Горкі. Закончацца спаборніцтвы ў красавіку.

**Аддзел інфармацыі.**

## Дзяўчына з Палачанаў заняла другое месца на міжнародным фестывалі па конным спорце

У выхадныя, 5-6 кастрычніка, на базе спартшколы алімпійскага рэзерву «Белка» (Расія) адбыўся 14-ы фестываль для людзей з абмежаванымі магчымасцямі «Залатая восень».

У ім прынялі ўдзел 326 спартсменаў з усіх рэгіёнаў Расіі і прадстаўніца Беларусі. **Вольга Грыбовіч** – выхаванка ААТ «Палачаны». Яны выступала ў самай складанай праграме і заняла другое месца.

Летась дзяўчына таксама заняла 2-е месца ў гэтым фестывалі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Каманды з Павілля пачалі сезон у непрафесійнай баскетбольнай лізе

У нядзелю, 6 кастрычніка, у непрафесійнай баскетбольнай лізе прайшоў першы тур. Баскетбалісты са Смаргоні і Маладзечна прынялі ўдзел у спаборніцтвах.

Смаргонцы згулялі супраць мінскай каманды DEAF-MINSK – 52:61.

Маладзечанцы правялі першую сустрэчу ў папярэднім этапе з баскетбалістамі StackLevel –67:57.

**Настасся УТКІНА.**

# «Андэрдог» – сямейны клуб»

## Мікалай Мятліцкі распавядае пра скандальную гульню, адносіны са спонсарамі і планах на будучыню

**Шэсць галоў, тры пенальці і галоўны трэнер за агароджай. Суботні матч у другой лізе са скандальным фіналам паміж «Андэрдогам» і «СМІ-Аўтатрансам» – гэта падстава пагаварыць з дырэктарам і гульцом каманды «Андэрдог» Мікалаем Мятліцкім.**




Фота onliner.by.

Мікалай Мятліцкі.

### Неадназначнае судзейства ў апошнім матчы

**– Раскажыце, што адбылося?**

– Нас вельмі моцна падвяло судзейства. У арбітра былі ўсе магчымасці зрабіць сваю працу правільна. Але ў яго не атрымалася.

Мятліцкі распавёў, што судзейства было такое, што ўпершыню за час знаходжання ў футболе ён вырашыў паехаць у федэрацыю футбола, каб разабрацца ў сітуацыі і напісаць паперу на арбітра. Футбаліст адзначае, што з першых хвілін матча адбывалася незразумелае.

Спачатку прызначылі пенальці, якога не было – гулец «Андэрдога» ў падкаце выбіў мяч. Потым суддзя не залічыў па правілах забіты гол у вароты сапернікаў чысцінцаў. Пры ліку 2:2 паставіў яшчэ адзін дзіўны пенальці і надаваў гульцам і трэнеру картак.

– У рэферы былі ўсе магчымасці кіраваць гульнёй, але ён не справіўся і матч выйшаў у яго з-пад кантролю. Я сустракаўся з кіраўніком судзейскага корпусу, папрасіў, каб мяне запрасілі на разгляд дысцыплінарнага камітэта па гэтым пытанні, каб я таксама выказаў сваё меркаванне. Бо тое, што арбітр напісаў пасля гульні ў пратаколе, – так нельга рабіць, – кажа Мятліцкі.

**Запіс у пратаколе:**
Мікалай Мятліцкі пасля заканчэння гульні выдалены за непрыстойныя паводзіны – выразы (жэсты) у адрас партнёраў, суддзяў, афіцыйных асоб, гледачоў. Пасля фінальнага свістка ў нецэнзурнай форме абразіў судзейскую брыгаду.

У сваёй заяве Мятліцкі напісаў, што суддзя адкрыта хлусіць.

Але кіраўнік судзейскага корпусу растлумачыў, што трэба звяртаць увагу на апошні запіс, у якім пазначана, што Мятліцкі нецэнзурна адгукаўся аб брыгадзе арбітраў. Мятліцкі кажа, што і гэта хлусня.

**– Кіраўнік судзейскага корпуса Чэпа падзяліўся з вамі ацэнкай арбітражу, выстаўленай інспектарам матча Вялічкам?**

– Вялічка таксама паказаў толькі эпізод з нецэнзурнай лаянкай пасля заканчэння матча. Чэпа мне сказаў, што ў іх у судзейскім корпусе ёсць людзі не вельмі кампетэнтныя. Але калі на шляху ў распранальню чалавек пачынае зрывацца, піша ў пратаколе ўсялякае глупства – гэта па-за маім разуменнем.

**Мікалай кажа, што галоўны трэнер Дзяніс Мятліцкі спрабаваў выбегчы на поле, але футбалісты яго ўтрымалі. У выніку галоўны трэнер глядзеў гульню ў даволі незвычайным месцы – за агароджай.**

### «Андэрдог» без дзяржпадтрымкі, але з буйным інвестарам

Мятліцкі пакуль не загадвае, што будзе ў наступным сезоне з фінансаваннем каманды. Ён кажа, што ёсць шанцы трапіць у лігу рангам вышэй. Па заканчэнні сезона будзе сустрэча з заснавальнікам, і ўжо там будуць абмяркоўваць далейшыя перспектывы.

**– Ёсць і нюансы з дамоўнымі гульнямі. Вынікі расследавання абвесцяць пасля заканчэння сезона, і за кошт гэтага могуць з'явіцца дадатковыя месцы ў першай лізе.**

Ёсць розныя варыянты, таму мы будзем змагацца за павышэнне ў класе да канца. У тым ліку і на футбольным полі.

Журналіст **Мікалай Хадасевіч** выказаўся пра «Андэрдог» і мэтазгоднасць укладання грошай у праект. Ён сказаў, што балельшчыцкі рэсурс пасёлка Чысць не дазволіць развівацца. Мятліцкі адказаў, што гэта дзіўныя словы з боку журналіста.

– У пасёлку сем з паловай тысяч насельніцтва, а пры развіцці, калі прадпрыемства «Забудова» зноў пачне квітнець, у нас праз два-тры гады будзе і 14 тысяч.

**Калі трапім у першую лігу і замацуем адносіны са спонсарам, то наладзім і працу ў маркетынгу. Будзем рабіць з футбола свята.**

Да таго ж з такой лагістыкай – усяго 45 км ад Мінска – грэх не марыць аб вышынях.

«Андэрдог» у міжсезонне адмовіўся ад дзяржаўнай падтрымкі. Мікалай Мятліцкі кажа, што гэта была вымушаная мера. У каманды ёсць інвестар **Аляксей Ярамчук**, які кіруе маскоўскай кампаніяй па продажы машын «Тэсла».

### Трэнерам застанецца Дзяніс Мятліцкі

У «Андэрдог» перайшлі моцныя футбалісты – **Халадзінскі** і **Гаеў**. Запрашэннем футбалістаў займаўся інвестар разам з галоўным трэнерам.

**У камандзе Мікалай Мятліцкі – дырэктар і гулец, а галоўны трэнер і капітан – яго сыны. Мятліцкі кажа, што яны працуюць у адной звязцы. Ён таксама адзначае, што «Андэрдог» – гэта сямейны клуб, і гэта дапамагае камандзе.**

**– Як вы лічыце, чаму не ўсё складваецца так, як хацелася, у плане выніку?**

– Тут шмат чаго не хапіла. У тым ліку і шанцавання. Не скажу, што мы слабейшыя за сваіх асноўных сапернікаў на футбольным полі. Трэніровачны працэс сёлета цікавы. Усе заняткі тэмпавыя. І фізічна мы гатовыя ледзь не лепш за ўсіх у лізе. Гэта поспех трэнера. Было зроблена шмат, каб паказваць добры футбол.

**– Калі пад кіраўніцтвам Дзяніса Мятліцкага каманда ў бліжэйшы час не даб'ецца жаданых вынікаў, вы разгледзіце варыянт з прызначэннем на пасаду галоўнага трэнера кагосьці іншага?**

– Не. Наш інвестар сказаў, што ні ў адной, ні ў другой лізе разглядацца іншыя кандыдатуры на месца трэнера не будуць.

**Ёсць прыклад Жукоўскага, які са сваёй «Ісдаччу» ідзе год за годам, перажываючы і ўзлёты, і падзенні. Гэтак жа будзем развівацца і мы.**

**Сяргей УЛАДЫКА.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Верхняе ўнутранае пакрыццё памяшкання, процілеглае падлозе.
4. Цяжэйшы за паветра лятальны апарат з рухавіком і, звычайна, нерухомымі крыламі.
5. Грукат і трэск, якія суправаджаюць маланку ў час навальніцы.
7. Рэльефны, па-мастацку выкананы адбітак на паверхні металічных вырабаў.
8. Чацверты дзень тыдня.
9. Сплаў жалеза з вугляродам, больш крохкі і менш коўкі, чым сталь, які прымяняецца для перапрацоўкі ў сталь і для вытворчасці літых вырабаў.
10. Паглыбленне пад зямлёй, часта з некалькімі хадамі, якое вырытае жывёлінай і служыць ёй жыллём.
11. Тое, што і перагной.
14. Які змяшчае шмат соку.
15. Любімая здабыча рысі.
20. Цацачнага мядзведзіка ў ЗША прынята называць гэтым імем у гонар прэзідэнта Рузвельта.
21. Прымяненне фізічнай сілы ў адносінах да каго-небудзь.
22. Палонны, якога захопліваюць спецыяльна, каб атрымаць неабходныя звесткі аб праціўніку.
23. Дзяржаўная пасада ВКЛ, які працаваў з дакументамі і адказваў за выкананне загадаў.
24. Ніл Гілевіч: «... прайшоў – І водарам п'янлівым Пацягнула з маладога бору, І сцяблінка кожная на ніве Пераможна пазірае ўгору».

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Спецыяліст па доглядзе за садам і вырошчванні садовых раслін.
3. Сухія сцёблы злакавых раслін, якія застаюцца пасля абмалоту.
5. Першая птушка, якую адамашнілі.
6. Глыбіні зямлі, месцы пад зямной паверхняй, а таксама тое, што там змяшчаецца.
7. Шкілет галавы пазваночных і чалавека.
8. Кароткая, звычайна чатырохрадковая песня жартаўлівага або сатырычнага зместу.
10. Груз, які пераносіцца на сабе.
11. Вельмі моцны, раскацісты шум.
12. Барацьба, кусанне адзін аднаго зубамі.
13. Афрыканская краіна, праз якую цячэ рака Аранжавая.
16. Жывёлы, часцей аднаго віду, якія пасуцца або ўтрымліваюцца разам, гуртам.
17. Унутраная частка плода (звычайна арэха), зерня або семя, пакрытая шкарлупінай, абалонкай.
18. Пазбаўлены здольнасці гаварыць.
19. Гэты арэх атрымліваюць у падарунак нобелеўскія лаўрэаты ў гонар уручэння.
24. Адна з рэк Беларусі, праз якую ішоў шлях «з варагаў у грэкі».

## Адказы на крыжаванку з №40

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Дзьмухаўцы. 3. Гадзіннік. 4. Факел. 6. Ферма. 9. Неба. 11. Шыпшына. 13. Цукат. 14. Навігацыя. 16. Цэпкі. 17. Ружовы. 20. Нябыт. 21. Нумар. 22. Зацірка. 23. Воблака.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 2. Мексіка. 5. Аральскае. 6. Флот. 7. Рухавік. 8. Цэмент. 10. Ціна. 12. Радыятар. 13. Цяпло. 15. Намібія. 18. Фантан. 19. Распуста. 21. Набыць. 24. Рыса.



## ● ГАРАСКОП на 11-17 КАСТРЫЧНІКА

**АВЕН.** У рабочай сферы ў вас усё выдатна. А вось у сферы асабістых адносінаў у вас яўныя пытанні. Каб не было страт, пастарайцеся не крыўдзіцца і не крыўдзіць блізкіх. Часам лішнія эмоцыі шкодзяць адносінам. Лепш за ўсё правесці гэтыя дні спакойна.

**ЦЯЛЕЦ.** Для вас надышоў перыяд, калі трэба падумаць пра мінулае, пасумаваць па людзях, якія зніклі з вашага жыцця. Дазвольце сабе акунуцца ў гэтыя пачуцці. Але не варта моцна паглыбляцца ў такія думкі. Няхай лёгкі сум стане пачаткам прыемнай радасці.

**БЛІЗНЯТЫ.** Вам захочацца ўвагі да сябе ад блізкіх і сяброў. Магчыма, варта арганізаваць свята або вечарыну, на якую вы запросіце дарагіх сэрцу людзей. Гэта свята дасць усё тое, чаго вам не хапае – прыемную атмасферу, цёплыя размовы.

**РАК.** На гэтых днях вам спатрэбіцца ўменне ўлагоджваць канфлікты. Вам гэта ўдаецца лепш за многіх іншых, вы дыпламаты ад прыроды. Таму не здзіўляйцеся, калі менавіта вас папросяць дапамагчы памірыць два бакі. І смела дапамагайце, у вас атрымаецца.

**ЛЕЎ.** Варта вяртацца да рабочага тэмпу і займацца справамі сур'ёзна. Выдзеліце час на ўзмоцнены рабочы рэжым, папрасіце сям'ю паставіцца да такой сітуацыі з разуменнем. Уладкаваўшы дзелавыя пытанні, абавязкова прысвяціце час сям'і.

**ДЗЕВА.** У вас будзе магчымасць падзарабіць грошы. Але пастарайцеся іх асабліва не траціць. Паспрабуйце максімальна эканоміць. І ў канцы месяца вы моцна сабе падзякуеце за такую ашчаднасць.

**ШАЛІ.** У гэты перыяд у вас будзе шмат пытанняў, якія будуць сыпацца адно за адным. І, здавалася б, усе гэтыя праблемы нязначныя і вырашаюцца на раз-два. Але тое, што яны пераўтварыліся ў паток, будзе крыху напружваць. Затое, перажыўшы гэты няпросты тыдзень, вас чакае сапраўдная ўзнагарода.

**СКАРПІЁН.** У першай палове тыдня вас чакаюць важныя размовы. Добра падрыхтуйцеся да іх і ўзважвайце кожнае слова. Яны будуць на вагу золата, таму што вашы субяседнікі паспрабуюць знайсці, за што вас зачапіць. Таму лепш казаць менш, але шчыра.

**СТРАЛЕЦ.** Вялікія справы лепш пакуль прытрымаць. А вось новыя знаёмствы цалкам могуць стаць пачаткам сур'ёзных рамантычных адносінаў.

**КАЗЯРОГ.** Паклапаціцеся пра сваё здароўе. Сон, ежа, фізічная актыўнасць – нармалізаваць усё гэта павінна стаць галоўнай задачай перыяду. Ініцыятыву ў рамантычных адносінах варта браць на сябе.

**ВАДАЛЕЙ.** Падумайце пра тое, як можна прымусіць вашы грошы працаваць. Магчыма, вы маглі б інвеставаць або ўкласціся ў нешта прыбытковае.

**РЫБЫ.** Для вас перыяд павінны адзначыцца поўным спакоем і гармоніяй. Нішто не павінна вас выбіваць з рытму лагоднага расслаблення. Дазвольце сабе акунуцца ў пяшчоту.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | | 1 | 2 | 4 | | | | |
| 9 | 5 | | 6 | | | | 1 | |
| 3 | 7 | | 1 | | | | | 6 |
| | | | | | | 7 | 8 | 9 |
| | 4 | 8 | | | | | | 3 |
| | | | | | 2 | | 5 | 4 |
| 8 | | | 4 | | | | 7 | |
| | | 9 | | 2 | | 8 | | |
| 1 | | 7 | | | | | | 2 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

Рэгіянальная газета. Rh.by



# Інстаграмныя месцы Маладзечна. Сад камянёў

**Месца з каменнымі скульптурамі на музычныя тэмы з'явілася ў цэнтры горада ў 2016 годзе.**

Яны ўзніклі падчас рэспубліканскага пленэру скульптараў «Вернісаж камянёў». Паўдзельнічаць у форуме сабралася сем творцаў з Беларусі, Расіі і Арменіі. Каардынаваў працу скульптараў адзін з аўтараў мемарыяльнага комплексу «Шталаг-342» **Валянцін Бордзы**.

Матэрыял, з якога рабілі скульптуры, – валуны, яны засталіся на маладзечанскай зямлі пасля ледніковага перыяду. Усе скульптуры прысвечаныя музыцы. Таму што Маладзечна – культурная сталіца Міншчыны і гаспадыня Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі.

Скульптуры размясцілі на пляцоўцы за Палацам культуры. Адкрыццё адбылося 30 жніўня 2016 года. Ад гэтага часу сад камянёў – адно з месцаў, дзе прыемна бавіць час аматарам музыкі, культуры і мастацтва.

Прапануем да здымкаў хэштэгі #садкамянёўмаладзечна #садкамнеймолодечно.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**






## Чытайце праз тыдзень:

- З якімі праблемамі выбаршчыкі звяртаюцца да сваіх дэпутатаў? Ці вырашаюць мясцовыя абраннікі народа нейкія праблемы грамадзян? А калі не вырашаюць, то чаму? Гутарым з былым вілейскім дэпутатам.

## 12 кастрычніка, субота

**Вецер:** паўднёва-заходні, 9-10 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВАЛОЖЫН**

Мінімальная тэмпература -1,8°С у 2015 годзе
Максімальная тэмпература +19,8°С у 2014 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 10,7 мм у 1985 годзе

Паводле meteoinfo.by.



## Хавайся ад восеньскай дэпрэсіі з «Рэгіянальнай газетай»!

### Падпісацца на «РГ» можна:

- **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

- **на пошце**
- **праз паштальёна**
- **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на месяц – 4 рублі 50 капеек;

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 13 рублёў 50 капеек;

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Ці можна ўжо апранаць зімовае адзенне?



**Ала Баюс, пенсіянерка:**
– Я ўжо ў зімовай вопратцы: дастала цёплае паліто. Усё залежыць ад надвор'я. Калі сонца свеціць, вы ж не будзеце цёпла апранацца.



**Яўген Лахмакоў, рабочы:**
– Калі будзе холадна і маразы пачнуцца.



**Ларыса Гомаль, пенсіянерка:**
– У кожнага індывідуальна, але толькі тады, калі на вуліцы будзе холадна.



**Мікалай Ермакоў, пенсіянер:**
– Яшчэ рана, няма снегу. У выхадныя садзіў цыбулю. А цяпер у мяне браня: пад курткай джынсоўка.



**Максім Карніцкі, інжынер па мантажы:**
– Для каго як, а мне яшчэ не холадна, таму рана апранаць зімовае адзенне.



**Аляксандра Калянчук, намеснік дырэктара:**
– Зімовую можна апранаць і летам, калі мерзнеш. Ды і па модзе цяпер адразу не заўсёды можна сказаць, зімовая, напрыклад, куртка, ці веснавая. Калі вы агледзіцеся, то ўбачыце, што нават у кастрычніку хтосьці яшчэ ў кедах ці балетках, а хтосьці ўжо ў чаравіках з футрам.



**Таццяна Грышкевіч, выкладчык:**
– Мне здаецца, што ўжо надышоў той час, калі трэба апранацца ў зімовае адзенне. Але гэта справа кожнага. Я ўжо і сама апранаю зімовую куртку, і дзіцяці таксама.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4100 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№41 (1276) 11.10.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1644. Падпісана ў друк у 9.00 10.10.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.